6 мая 2016 | № 18 (483)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Вайна інжынера Краўцова стар. 10



# Памяці не трэба вайсковыя парады

## Штодзённы клопат пра ветэранаў вайны дзяржава замяняе дэманстрацыяй сілы раз на год



Аксана КОЛБ

Хутка 9 мая. Зноў вайсковы парад. Зноў танкі, самалёты, зброя. П'яныя ў парках і скверах. Гучныя прамовы і віншаванні з перамогай з высокіх трыбун. Каму гэта трэба? Якія комплексы прымушаюць дзяржаву з года ў год выдаткоўваць немалыя сродкі на імітацыю памяці пра подзвіг ветэранаў?

Майму айчыму, інваліду Вялікай Айчыннай вайны Івану Золіну — 91 год. Ён быў двойчы паранены, мае баявыя ўзнагароды. Трапіў на фронт у 17 гадоў кулямётчыкам і скончыў вайну ў Кёнігсбергу. Такіх, як ён, хто сапраўды ваяваў і шмат праз што прайшоў, засталося ў Беларусі ўсяго некалькі тысяч (а можа і меней). І з кожным годам іх усё менш.

Пра іх узгадваюць напярэдадні свята. Прыганяюць школьнікаў на сустрэчы. Дораць каштоўныя падарункі, і нават падкідваюць мільён-другі да пенсіі. Іх цягаюць на розныя сустрэчы і просяць расказаць пра вайну. Перакладваючы жоўтыя лісты калісьці складзеных аповедаў, яны будуць дзяжурна распавядаць пра ваенныя шляхі, пра смерць і перамогу. Але не таму, што ім няма чаго ўзгадаць, а таму, што іх сапраўдныя ўспаміны нікому не патрэбны. А яшчэ — таму, што гэтыя ўспаміны вельмі балючыя.

Мой айчым расказваў, як камісар адправіў яго, паранена, пешшу ў мароз за 20 кіламетраў аднесці нейкую важную паперку ў штаб палкоўніку, бо машыну было шкада. А яго, 18-гадовага хлопца, не. Ён ледзь не памёр па дарозе, але паперку тую даставіў. А пасля яшчэ некалькі месяцаў праляжаў у шпіталі.

Яшчэ расказваў пра тое, як у першым жа баі на яго вачах куля размажджэрыла твар лепшага сябра, такога ж 17-гадовага хлопца. Ён расказваў і ціха плакаў. І казаў, што ніколі гэта не забудзе.

Вы думаеце, пра такое можна спакойна расказваць з года ў год? Вось і чытаюць ветэраны па сваіх пажухлых паперак: «Ваяваў, вызваляў, сустрэў Перамогу...»

Айчым расказваў і пра тое, як у Кёнігсбергу ў падвале аднаго з прыватных дамоў яго ўразіла колькасць і разнастайнасць гаспадарскіх запасаў. «Я столькі ніколі ў жыцці не бачыў», — казаў ён. А пасля распавёў пра тое, пра што не прынята гаварыць на сустрэчах з моладдзю: пра рабаванні, гвалтаванні нямецкіх дзяўчат, пра расстрэлы старых. Ён гэта бачыў — і таксама ніколі не забудзе.

Колькі такіх успамінаў у ветэранаў... У тых, хто сапраўды прайшоў шляхамі вайны, хто бачыў смерць сваіх сяброў і таварышаў, каму цэліліся свае ж у спіну, каго кідалі як гарматнае мяса на ўзяцце нікому не патрэбных вышыняў да гадавіны Кастрычніка ці проста таму, што прыехаў генерал. Ці трэба тым, хто сапраўды бачыў тую вайну, вайсковы парад? А можа, яны проста хацелі б узгадаць тых, каго з імі ўжо няма. Проста ўскласці кветкі, ціха пастаяць, магчыма, паплакаць і сказаць дзякуй, што жывыя, што больш не трэба ні з кім ваяваць.



Рэзалюцыяй Генасамблеі ААН 8 і 9 мая абвешчаны Днямі памяці і прымірэння. У гэтыя дні ў шматлікіх краінах свету, жыхары якіх таксама перажылі жахі Другой сусветнай вайны, улады і грамадзяне ўскладаюць кветкі да помнікаў загінулым і ўшаноўваюць жывых.

У ЗША ўрачыстасці арганізуюць Асацыяцыі ветэранаў Другой сусветнай вайны, якія дзейнічаюць у многіх гарадах краіны. Самае вядомае іх мерапрыемства — цырымонія ўскладання вянкоў да Нацыянальнага мемарыяла Другой сусветнай вайны ў Вашынгтоне. 8 мая ў Лондане на вуліцы Уайтхол у Кенотафа (абеліска, прысвечанага салдатам, загінулым ва ўсіх войнах) у прысутнасці каралеўскай сям'і праводзяцца цырымонія ўскладання вянкоў і памінальная служба. Каля мемарыяла збіраюцца члены ветэранскай арганізацыі «Брытанскі легіён», прадстаўнікі брытанскіх узброеных сіл, палітыкі і грамадскія дзеячы.

Амаль ні ў якой з краін-удзельніц Антыгітлераўскай кааліцыі не праводзіцца пампезных парадаў. У гэтых краінах нікога не прымушаюць памятаць пра подзвіг бацькоў і дзядоў. Пра іх проста памятаюць. Жывым забяспечваюць годнае жыццё. Мёртвым — належны стан магіл.

Але гэта не пра нас. Перамогу мы святкуем не кветкамі, а дэманстрацыяй танкаў, ракет, іншай тэхнікі ды ўзбраенняў. Чаму замест таго, каб прыйсці ў гэты дзень на магілы воінаў, пакланіцца ім да зямлі, афіцыёз арганізуе паказуху і, задраўшы галаву, прымае вайсковы парад? Чаму нам кажуць, што вайна — гэта дрэнна, а над галовамі лятаюць ваенныя самалёты, а па цэнтральным праспекце равуць танкі?

Так хочацца відовішча? Пасадзіце ветэранаў з вялікімі букетамі кветак у белыя кабрыялеты і правязіце перад трыбунамі. Тысяча белых машын з сівенькімі ветэранамі на праспекце незалежнасці, тысячы рознакаляровых балонікаў у мірным небе, тысячы ўсмешак — чым не відовішча!

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

### За раздачу інфармацыйных улётак чакаюць суды

**Суд Заводскага раёна Мінска 6 мая разгледзіць адміністрацыйныя справы актывістаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі, Вольгі Маёравай і Дзяніса Красачкі.**

Іх абвінавачваюць у раздачы інфармацыйных матэрыялаў. З гэтай нагоды старшыня АГП Анатоль Лябедзька паведаміў «Радыё Свабода», што ў выніку можа быць створаны небяспечны прэцэдэнт, якога раней не было ў гісторыі Беларусі: інфармацыя пра тое, што актывістаў будуць судзіць, была атрыманая пасля таго, як раздалі адпаведныя матэрыялы на прахадной Мінскага аўтамабільнага заводу.

Паколькі ў Адміністрацыйным кодэксе адсутнічае пакаранне непасрэдна за раздачу інфармацыйных матэрыялаў, пратаколы могуць быць складзеныя за несанкцыянаванае пікетаванне альбо за незаконны выраб прадукцыі СМІ.

**spring96.org**

### Журналістку будуць судзіць за фатаграфаванне пікета

**Журналістку «Бобруйского курьера», якая фатаграфавала прафсаюзны пікет, вінавацяць ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі.**

Карэспандэнтка «Бобруйского курьера» Александрына Глаголева была выкліканая да ўчастковага інспектара мясцовага УУС Юрыя Савіча. Там Александрыну азнаёмілі з пратаколам, складзеным участковым інспектарам Слонімскага РАУС Аляксандрам Навасадам.

Глаголеву вінавацяць у парушэнні артыкула 23.34 КаАП. Міліцыянты сцвярджаюць, што журналістка прымала ўдзел у недазволеным пікеце актывістаў прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці, які праходзіў 31 сакавіка ў Слоніме. Актывісты РЭП з Бабруйска і іншых гарадоў Беларусі ў той дзень ладзілі грамадскую акцыю па падтрымцы свайго Слонімскага калегі, якому не працягнулі працоўны кантракт.

Александрына Глаголева, а таксама яе муж журналіст Яўген Глаголеў-Васьковіч, па заданні «Бобруйского курьера», асвятлялі гэта мерапрыемства. У тым ліку, фатаграфавалі тое, як праходзіў пікет.

Публікацыя пра мерапрыемства — «Бабруйскія актывісты прафсаюза РЭП падтрымалі свайго слонімскага калегу» — была размешчаная на сайце «Бобруйского курьера» 2 красавіка. Між тым, 24 красавіка на Яўгена Глаголева-Васьковіча склалі пратакол як на парушальніка заканадаўства. А цяпер адміністрацыйная вытворчасць распачатая і ў дачыненні да Александрыны.

Са слоў міліцыянта, які складаў пратакол апытання, суд прызначаны на 13 мая. І хутка абодвум журналістам будуць дасланыя позвы. Па патрабаванні Глаголевай, у матэрыялы справы былі ўключаныя пісьмовае рэдакцыйнае заданне «Бобруйского курьера» за подпісам галоўнага рэдактара Анатоля Санаценкі, скрыншот публікацыі на сайце «БК» і раздрукоўка гэтага матэрыялу.

**Прэс-служба БАЖ**

### Андрэю Гайдукову прысудзілі штраф за расцяжку

**Разгляд справы аб адміністрацыйным правапарушэнні ў дачыненні да Андрэя Гайдукова адбыўся 2 мая ў будынку Наваполацкага ГАУС.**

Сябра аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Андрэй Гайдукоў быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі 28 красавіка, падчас вывешвання расцяжкі «Праца — права, а не абавязак».

Справу разглядаў намеснік начальніка аддзела ўнутраных спраў Наваполацкага па ідэалагічнай і кадравай рабоце Шэндзель В.Н. У якасці сведкі выступаў супрацоўнік Наваполацкага ГАУС Аляксандр Барэткін.

Шэндзель паведаміў, што Гайдукоў, згодна з матэрыяламі справы, размясціў расцяжку ў месцы, дзе размяшчэнне інфармацыйных матэрыялаў нерэкламнага характару забаронена, чым парушыў п.17 Правіл добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў.

Гайдукоў не прызнаў сябе вінаватым. Ён паведаміў, што вывешваў расцяжку, але пасля фатаграфавання, збіраўся яе зняць. Сведка Барэткін патлумачыў, што далейшыя дзеянні Гайдукова былі яму не вядомыя, ён пацвердзіў, што перад затрыманнем Гайдукоў пачаў падымацца па насыпу на мост і рухаўся у бок расцяжкі, але калі пачалося затрыманне ён спрабаваў збегчы.

Трэба адзначыць, што са слоў Андрэя Гайдукова, гэта ўжо было трэцяе вывешванне расцяжкі ў гэты дзень, і два разы ён рабіў фотаздымак і здымаў расцяжку.

Нарэшце спадар Шэндзель прыйшоў да высновы, што сабрана дастаткова доказаў віны Гайдукова, і пастанавіў, згодна с ч. 2 арт. 21.14, накласці на яго штраф у памеры 10 базавых велічынь (2 100 000 бел. руб.).

Андрэй Гайдукоў плануе абскардзіць дадзеную пастанову намесніка начальніка ГАУС Наваполацкага гарвыканкама ў судзе.

**spring96.org**

# Андрэй Бандарэнка абскарджвае прафілактычны ўлік

Сяргей ПУЛЬША

**Праваабаронца Андрэй Бандарэнка, які знаходзіцца ў турме №4 Магілёва, паспрабаваў абскардзіць пастанову яго на прафілактычны ўлік як «схільнага да нападу на супрацоўнікаў адміністрацыі, захопу закладнікаў і да хуліганскіх дзеянняў». Пра гэта Андрэй паведаміў у лісце, атрыманым НЧ.**

Сваю спробу ён апісвае як «займальную гісторыю». Са скаргай на беспадстаўную пастанову на ўлік ён звярнуўся ва Упраўленне Дэпартамента выканання пакаранняў па Магілёўскай вобласці. Адтуль прыйшоў адказ, што ў дзеяннях супрацоўнікаў калоніі №17 Шклова, якія паставілі Бандарэнку на гэты ўлік, парушэнняў не знойдзена, і, паколькі Бандарэнка асуджаны за хуліганства, пастаноўка на ўлік «адпавядае патрабаванням». «Якім менавіта патрабаванням і што менавіта адпавядае, у адказе з трох абзацаў указана не было», — заўважае вязень сумлення.

Таму Андрэй і яго адвакат абскардзілі гэты адказ у пракуратуры Магілёўскай вобласці, пазначыўшы, што падчас знаходжання ў Шклове Андрэй не даваў падставаў для таго, каб у яго дзеяннях угледзелі імкненне да нападаў і захопу закладнікаў.

Пракуратура вобласці звыкла перапраправіла скаргу ў той самы УДВК Магілёўскай вобласці. Адтуль да Бандарэнкі прыехаў цэлы маёр, а за ім — і адказ, такі ж, як і першы. «Праўда, абзацаў стала больш. Мне дадаткова паведамілі, што для пастаноўкі мяне на ўлік былі скарыстаныя нейкія пастановы, але яны «для службовага карыстання», і азнаёміць мяне з гэтымі пастановамі не могуць. А тое, што нідзе няма майго подпісу з азнаямленнем, то мяне і не павінны былі з гэтым рашэннем знаёміць. Але для пераканаўчасці напісалі, што сведкамі выступілі асуджаныя папраўчай калоніі №17».

«Смех у тым, — піша Бандарэнка, — што ўвесь час майго знаходжання ў калоніі ў Шклове я знаходзіўся ў адзіночнай камеры, і з цяжкасцю ўяўляю, хто мог бы быць сведкам».

«Зараз чакаю, што мне адкажа пракуратура, каб напоўніцу атрымаць асалоду самым вытанчаным падыходам у рэалізацыі і абароне зняволенымі сваіх правоў. Але, не асабліва спадзеючыся на пазітыўны вынік, рыхтую скаргу ў Генеральную пракуратуру», — зазначыў Бандарэнка.

# У Слуцкім раёне ўстаноўлены Крыжы Памяці

Зінаіда ЦІМОШАК



**Усталяванне і асвячэнне драўляных крыжоў адбылося 2 мая ў лясных масівах у трох месцах непадалёк ад вёскі Каліта, што ля Слуцка.**

На асвячэнні прысутнічалі больш за 30 чалавек: грамадскія актывісты Слуцка, жыхары вёскі Каліта, госці з Мінска. Асвяціў крыжы айцец Ігар з Міхайлаўскага сабора.

Аўтар ідэі ўстаноўкі крыжоў у месцах масавых расстрэлаў 1930-х гадоў на Случчыне — вядомы палітык Мікола Статкевіч. Дзед Міколы Статкевіча пражыў няпоўныя 40 гадоў, быў арыштаваны па надуманых прычынах і загінуў у Слуцку ў студзені 1938 года.

«У нашай краіне замоўчваюцца трагічныя падзеі 1930-х гадоў, калі загінулі мільёны людзей падчас сталінскіх рэпрэсій. І Случчына — не выключэнне. У нас да гэтага часу няма помнікаў ні слуцкім паўстанцам, ні людзям, расстраляным у 1930-я гады», — сказаў грамадскі актывіст Анатоль Балакір.

Ён таксама распавёў прысутным пра вялікую працу, што папярэднічала ўстаноўцы крыжоў: «Родзічы ахвяраў да гэтага часу не ведаюць месцы апошняга прытулку іх блізкіх. Таму я і вырашыў дапамагчы, калі да мяне звярнуўся мой аднапартыец і сябра Мікола Статкевіч і папрасіў высветліць месца магчымага расстрэлу яго дзеда».

Анатоль Балакір вельмі ўдзячны мясцоваму краязнаўцу, былому рэдактару газеты «Слуцкі край» Анатолю Жуку, аўтару кнігі пра Слуцк у 1937-м, які шмат гадоў карпатліва даследаваў мясцовую гісторыю. Праз паўгода сумесных пошукаў, сустрэч з мясцовымі жыхарамі былі дакладна ўстаноўлены некаторыя месцы масавых знішчэнняў людзей.

Лідзія Антонаўна Крыхтава, якая жыве ў вёсцы Каліта, таксама спрычынілася да пошуку месцаў расстрэлаў.

«На жаль, тых старых, якія былі сведкамі гібелі людзей, на свеце ўжо няма, — гаворыць жанчына. — Але помню гэтыя мясціны па расповедах маіх родзічаў. А яны паказвалі вялізныя яміны ў лесе і расказвалі, што ў студзені 1938 года зямля была чырвоная — выступіла людская кроў. Прывозілі людзей у лес уначы, чутны былі крыкі, плач, страляніна», — распавяла Лідзія Антонаўна.

«Мне было ўсяго адзін год і 10 месяцаў, калі забралі маці па абвінавачванні ва ўкрывальніцтве шпіёнаў. Бацьку пасадзілі ў турму яшчэ ў 1935 годзе, — распавёў 80-гадовы Міхаіл Мікалаевіч Казак. — Маці была хатняй гаспадыняй, мела сямёра дзяцей. Каб пракарміць нас, шыла адзенне. Карысталася поспехам як швачка, таму ў хаце бывала многа людзей, што і стала прычынай дурнога абвінавачвання. Маці расстралялі ў студзені 1938 года — тады ж, калі і дзеда Міколы Статкевіча. Магчыма, яны ляжаць у адной яме. Пасля маці рэабілітавалі пасмяротна. Але дзе ж тая рэабілітацыя, калі нават не сказалі, дзе пахавана? Вось знайшліся добрыя людзі — крыж устанавілі, бацюшка асвяціў», — падзяліўся ўспамінамі і ўсклаў бела-чырвоныя кветкі каля аднаго з крыжоў спадар Міхаіл.

Старшыня Сорагаўскага сельскага выканаўчага камітэта Адам Жанжэўскі пад'ехаў у той час, калі ўдзельнікі памінальнага мерапрыемства знаходзіліся ля помніка ахвярам рэпрэсій ля шашы Слуцк — Старыя Дарогі, усталяванага на свае сродкі ўраджэнцам гэтых мясцін Аляксандрам Ралько.

Заклапочана і гнеўна мясцовы чыноўнік задаў звыклыя пытанні: «Хто дазволіў? Як вы адважыліся на такія дзеянні?»

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# На парозе «газавай вайны»

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларусь — краіна цудаў. У ёй нібыта нешта адбываецца, а нібыта і не адбываецца. Прычым тое, што адбываецца, застаецца незаўважаным, а тое, што не адбываецца, — наадварот, стаецца важным. Гэткае «пайдзі туды, не ведаю куды, прынясі тое, не ведаю што».**



Фота yurasumy.livejournal.com

Вось, напрыклад, старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына абмеркавала з Аляксандрам Рыгоравічам дату парламенцкіх выбараў. Сышліся, дарэчы, на гадавіне маштабнага тэракту ў ЗША — атакі на «вежы-блізняты» ў Нью-Ёрку — 11 верасня. Такім чынам, пачацца парламенцкая кампанія павінна недзе 7 чэрвеня. У любой нармальнай краіне парламенцкія выбары — гэта значная, а недзе і лёсавызначальная падзея, іншым разам і больш важная, чым прэзідэнцкія выбары. Але — не ў нас.

Мы ўжо ведаем з лукашэнкаўскага паслання, што ў новым парламенце застанецца 30% дэпутатаў ад старога. І што дэпутаты натоўпамі бегаюць за Аляксандрам Рыгоравічам з просьбаю пакінуць іх на другі тэрмін, ці хаця б уладкаваць на «гасударавай службе». А народ, які, ці я нешта блытаю, павінен «абіраць дэпутатаў», застаецца недзе ўбаку. Бо нам ужо сказалі: траціна застанецца, яе вызначаць. Незалежна ад таго, чые прозвішчы будуць у бюлетэнях для галасавання. Ну і навошта гэтыя выбары? Навошта марнаваць на іх шалёныя грошы? Ужо не раз паступала прапанова адмовіцца ад гэтай непатрэбнай працэдуры, зэканоміўшы краіне дзясяткі мільёнаў долараў.

У мэтах эканоміі бюджэтных сродкаў я б, заадно, пазбавіўся б і Палаты прадстаўнікоў. Навошта нам яна? Давайце зробім аднапалатны парламент, прычым пакінем толькі Савет рэспублікі. Бо ён адпавядае рэаліям сённяшняга дня. Хто-небудзь калі-небудзь чуў пра ўсеагульныя выбары дэпутатаў Савета рэспублікі? А між іншым, гэтая палата — таксама ж парламент.

З той жа серыі: Аляксандр Лукашэнка 3 мая падпісаў указ № 164 «Аб скліканні пятага Усебеларускага народнага сходу». Мерапрыемства пройдзе 22–23 чэрвеня ў Мінску. Зараз усе аналітыкі аналізуюць, а эксперты — экспертуюць, што ж будзе сказана на тым Усебеларускім народным сходзе.

Зразумела, што сказаць народу няма чаго. Гэтае мерапрыемства не толькі стратнае, але і нават шкоднае. Шмат каму ўзгадаецца савецкі анекдот пра тое, як Брэжнева запыталіся, чаму ў краіне нестае мяса. І пачулі ў адказ: «Мы ідзем да камунізму сямімільнымі крокамі. Худоба за намі не паспявае».

Але ж і адмовіцца ад мерапрыемства нельга. Па-першае, народ з нагоды яго адсутнасці перад прэзідэнцкімі выбарамі ўжо пачаў казаць: «Бацька ўжо не той». Па-другое, абяцалі ж правесці, дык лепей позна, чым ніколі. І па-трэцяе, каб асабліва не раздражняць насельніцтва, прызначылі яго на самы пачатак сезону адпачынкаў, калі людзі будуць больш заклапочаныя выездам да мора альбо зборам ураджаю клубніцаў на сваіх палетках.

А вось што прайшло незаўважаным, але было значным... Варта запомніць гэты мінулы тыдзень. Магчыма, потым яго назавуць тым самым «днём ікс», з якога пачалася чарговая дэвальвацыя, альбо чарговыя «часовыя складанасці», альбо не ведаю ўжо якая па ліку «газавая вайна» з Расіяй.

Раней беларускія банкі ўсталёўвалі курс пакупкі валюты заўсёды ніжэйшы, чым курс Нацбанка, вызначаны таргамі на валютнай біржы. Сапраўды, навошта больш плаціць за валюту, чым можна набыць яе на біржы? На гэтым тыдні ў аўторак склалася адваротная сітуацыя — пры кошце долара па заканчэнні таргоў на біржы ў 19.121 беларускі рубель за «зялёны», банкі куплялі ў насельніцтва грошы 19.150 — 19.300. А гэта ўжо «званочак» для банкаўскай сістэмы. Нешта ў ёй не тое.

Адначасна з гэтым у сеціве з'явілася навіна пра тое, што ў дзяржбанкаў, якія па активах займаюць ільвіную долю на банкаўскім рынку, у параўнанні з мінулым годам значна скараціўся прыбытак. Так, чысты прыбытак «Беларусбанка» скараціўся ў 4,3 разы. «Белаграпрамбанк» страціў у даходах у 4 разы і выбыў з першай дзясяткі самых прыбытковых банкаў краіны. Прыкметнае скарачэнне прыбытковасці яшчэ ў двух валаўтваральных банкаў краіны — «БПС-Ашчадбанка» і «Белінвестбанка». За год чысты прыбытак у першага скараціўся ў 4,6 разы, у другога — у 6,5 разы.

Падаецца, дзяржбанкі не вытрымліваюць «спансавання пасяўной».

І яшчэ нам адгукнуўся продаж нашай «іржавай трубы» Расіі. Калісьці мы на 100% прадалі «Белтрансгаз» «Газпраму». А зараз гэтая «іржавая труба» патрабуе ад Беларусі грошай. «Газпрам трансгаз Беларусь» як пастаўшчык расійскага прыроднага газу, прызначанага для спажыўцоў Рэспублікі Беларусь, звярнуўся ў Міжнародны арбітражны суд з пазовам да арганізацый Рэспублікі Беларусь, якія займаюцца газавымі пастаўкамі», — праінфармавалі ў кампаніі.

У «Газпрам трансгаз Беларусь» падкрэслілі, што «ў сувязі з наяўнасцю запазычанасці з боку адпаведных арганізацый Рэспублікі Беларусь па аплаце пастаўленага прыроднага газу ААТ «Газпрам трансгаз Беларусь» абараняе свае інтарэсы ў адпаведнасці з умовамі заключаных дагавораў».

А вось намеснік прэм'ера Уладзімір Сямашка лічыць, што нашы прадпрыемствы маюць права недаплачваюць «Газпрам трансгаз Беларусь». «З 1 студзеня гэтага года мы маем усе падставы, каб нашы суб'екты гаспадарання мелі больш нізкую цану, чым нам прад'яўляе суб'ект гаспадарання Беларусі са статусам замежнага прадпрыемства «Газпрам трансгаз Беларусь», — заявіў Сямашка. Таму што, па яго словах, у нас падпісана «цэлая сістэма пагадненняў на ўзроўні ўрадаў дзвюх краін».

Гаворка ідзе пра пагадненне ад 2010 года аб парадку доступу да паслуг пэўных манаполій, пагадненні ад 2011 года аб парадку фарміравання цэн на прыродны газ у Беларусі і дагаворы ад 29 мая 2014 года аб стварэнні ЕАЭС. «Там усё дакладна распісана — калі, што, якія кошты дзейнічаюць, якія падыходы да фарміравання гэтых коштаў ёсць», — канстатаваў віцэ-прэм'ер.

Дзіўна, што Сямашка ўзгадаў пра міжурадавыя пагадненні — зазвычай яны проста ігнаруюцца. Праўда, існуе меркаванне, што ў Расіі «Газпрам», — гэта і ёсць урад. Тады, канешне, усё лагічна. Але ў «Газпраму» можа быць сваё меркаванне наконт цаны. З гэтым разбяруцца падчас «газавай вайны».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Аляксей Янукевіч

**Старшыня Партыі БНФ накіраваў у Генеральную пракуратуру заяву з патрабаваннем прызнаць расійскі байкерскі клуб «Начныя ваўкі» экстрэмісцкай арганізацыяй.**

Падставай для гэтага сталі выказванні лідара маскоўскіх «Начных ваўкоў» Аляксандра Залдастанава. Падчас візіту ў мемарыяльны комплекс у Хатыні Залдастанаў сказаў, што лічыць Беларусь і Украіну часткамі Расіі. «Беларусь — гэта Расія, Украіна — гэта Расія», — заявіў ён.

«Нахабная заява Залдастанава відавочна скіраваная на непрызнанне Рэспублікі Беларусь як незалежнай дзяржавы і мае на мэце падрыў тэрытарыяльнай цэласнасці нашай дзяржавы, — лічыць Янукевіч. — Заканадаўства пра барацьбу з экстрэмізмам, якое акурат нядаўна было значна ўдасканалена, мае на мэце барацьбу менавіта з падобнымі пагрозамі і заклікамі. У нашых дзяржаўных структураў цяпер ёсць выдатная магчымасць прадэманстраваць, што новыя заканадаўчыя нормы пра супрацьдзеянне экстрэмізму насамрэч будуць выкарыстоўвацца ў адпаведнасці з задэклараванымі мэтамі абароны нацыянальнай бяспекі і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі».

«Начныя ваўкі» сапраўды вылучаюцца радыкальна імперскімі поглядамі. Некаторыя з іх бралі ўдзел у штурмавых групах у часе захопу Крыма і часткі Данбаса.



## Уладзімір Сямашка

**Віцэ-прэм'ер паскардзіўся на няроўны ўмовы гаспадарання ў межах ЕАЭС.**

«Каардынаваць адзіную прамысловую палітыку ў рамках ЕАЭС сёння не вельмі атрымліваецца», заявіў ён на адкрыцці Беларускага прамысловага форуму ў Мінску.

«Я думаю, што гэта недапрацоўка і Еўразійскай эканамічнай камісіі, і нас, нашага ўраду і астатніх пяці краін. Нам не трэба дубляваца (у плане вытворчасцяў). У апошні час адзначаецца сусветная тэндэнцыя кааперацыі, ёсць усе пагадненні і дамоўленасці ў рамках ЕАЭС. Але многія краіны спрабуюць не зусім правільна закрыць свой рынак. Мы па некаторых таварных пазіцыях адчуваем адкрытую дыскрымінацыю пры пастаўках на рынкі ЕАЭС. Мы ўсімі магчымымі спосабамі з гэтыя змагаемся. Не для гэтага ствараліся ўсе гэтыя аб'яднанні», — падкрэсліў Сямашка.

Варта заўважыць, што яшчэ ў 2013 годзе Беларусь і Расія вызначылі пяць праектаў у прамысловай сферы, у рамках якіх планавалася стварыць сумесныя прадпрыемствы пры ўдзеле Мінскага завода колавых цягачоў і арганізацый абаронна-прамысловага комплексу Расіі, арганізацый Раскосмасу і беларускага «Пеленг», ААТ «Гродна Азот» і расійскага ААТ «МХК «Еўрахім», беларускага ААТ «Інтэграл» і ААТ «Расійская электроніка», ААТ «МАЗ» і ААТ «КамАЗ». І сінявокая ўсяляк тармазіць гэтую кааперацыю.



## Мікалай Казека

**Галоўны трэнер зборнай Беларусі па фрыстайле апынуўся ахвярай арышту Юрыя Чыжа.**

Следства арыштавала кватэру Казекі ў знакамітым «доме Чыжа» ў Траецкім прадмесці Мінска.

Падчас расследавання крымінальнай справы ў дачыненні да Чыжа і яго кампаніі «Трайпл» следчыя арыштавалі дзясяткі не распрададзеных кватэр, якія былі ў закладзе беларускіх банкаў. Па дакументах яны належалі «Трайплу». Казеку ж кватэру прадалі ў растэрміноўку, грошы за яе трэнер павінен выплаціць да сярэдзіны 2018 года. Таму фармальна жытло Казекі яшчэ належыць «Трайплу», і фармальна падпадае пад арышт маёмасці.

Мікалай Казека напісаў заяву следчаму, каб яго кватэру вызвалілі з-пад арышту. Адказ яшчэ не прыйшоў.

Мікалай Казека — вядомы беларускі трэнер, яму 66 гадоў. Яго выхаванцы Ала Цупер і Антон Кушнір сталі алімпійскімі чэмпіёнамі, ім падарылі кватэры ў «доме Чыжа». Кватэры чэмпіёнаў пад арышт не патрапілі. Не пашанцавала толькі іх трэнеру.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# XVII стагоддзе як узор для пераймання

**Аддзяленне асобы кіраўніка ад дзяржавы — не падзея, а працэс, які ў Беларусі яшчэ вельмі далёкі ад завяршэння.**

Пачну з прыкладу, запазычанага на сайце Паліт.Ру. Каля выспы Тэксель у паўночнай частцы Нідэрландаў вадалазы знайшлі куфар XVII стагоддзя з рэчамі англійскай арыстакраткі. Гісторыкі змаглі высветліць імя гаспадыні. Ёю аказалася Жанна Кэр, фрэйліна каралевы Марыі Генрыеты (жонка Карла I).

У 1641 годзе канфлікт караля з парламентам быў у самым разгары. Справа ішла да вайны, таму каралева накіравалася ў Галандыю для збору сродкаў, неабходных для ваенных дзеянняў. Яна разлічвала закласці або прадаць каштоўнасці, якая належалі ёй і Карлу I асабіста. Частка яе багажу і была страчана з-за крушэння аднаго з караблёў.

Фінансавая актыўнасць каралевы не засталася незаўважанай. Праз пэўны час парламент Англіі заявіў, што паездка каралевы з'яўляецца «спробай вывезці за мора вялікую суму грошай і іншыя скарбы, што не толькі збядняе дзяржаву, але і можа быць выкарыстана для некаторых зламысных спробаў нашкодзіць справе агульнага міру».

Місія каралевы вынікаў не прынесла. Каралеўскія рэгаліі былі занадта дарагія, а парламент сачыў за кожным яе крокам. Ён быў гатовы апратэставаць любую здзелку, заявіўшы, што ў каралевы няма права распараджацца сваімі каштоўнасцямі.

Але якое дачыненне гэта гісторыя мае да сучаснай Беларусі? На жаль, ні-я-ка-га. У гэтым сутнасць праблемы. Тое, што ў нас прынята лічыць «дзяржавай», а асобныя прасунутыя грамадзяне горда называюць «моцнай дзяржавай», па сутнасці такой не з'яўляецца. Гаворка, зразумела, ідзе пра сучасную трактоўку паняцця «дзяржава».

Згодна з Канстытуцыяй, беларускі народ з'яўляецца адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту. Ён ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна або праз прадстаўнічыя і іншыя органы (артыкул 3). Галоўны прадстаўнічы і заканадаўчы орган краіны — парламент (артыкул 90).

На паперы ўсё выглядае прыгожа і сучасна. Але ўявіць сабе, як беларускі парламент кантралюе дзеянні адзінага палітыка (АП), а пры неабходнасці і апратэстоўвае іх, я не магу. Такім чынам, перадавыя для XVII стагоддзя ўзоры народаўладдзя намі яшчэ не асвоеныя.

## Дзве пячаткі

За выключэннем класічных гарадоў-дзяржаў, ніводная палітычная супольнасць, якая існавала да сярэдзіны XVII стагоддзя, не рабіла адрознення паміж дзяржавай як абстрактнай арганізацыяй, якая валодае ўласнай юрыдычнай асобай, і асобай кіраўніка. Сістэма праўлення, якая зарадзілася ў нетрах феадалізму і ўзыходзіць да часоў Рымскай імперыі, насіла выключна асабісны характар.

Таму зусім не дзіўна, што сярэднявечны чалавек гісторыю палітычных супольнасцяў любога кшталту і памеру ўяўляў выключна як жыццяпіс асобаў, якія імі кіравалі. Для яго не існавала інстытутаў і безасабовых сіл. Адзінае выключэнне — Кола Фартуны. Яго кручэнне прыводзіла да ўзлёту або падзення кіраўнікоў, іх сямейнікаў, дарадцаў і, вядома, палюбоўніц. Гэты «вузкае кола абмежаваных асобаў» альбо заключала разнастайныя саюзы, альбо ваявала і інтрыгавала адзін супраць аднаго.

Пры такім поглядзе на свет не існавала паняцця «ўрад» у сучасным разуменні гэтага слова. Былі толькі людзі, якія служылі манарху ў той ці іншай якасці. Не існавала і грамадзянскай супольнасці, а былі толькі падданыя — важныя персоны і маленькія людзі, з якімі абыходзіліся ў адпаведнасці з іх статусам.

Кіраўнікоў, што спусташалі казну і марнавалі ўсё на якія-небудзь бздуры (напрыклад, на чарговую ўласную рэзідэнцыю), часам крытыкавалі за легкадумнасць. Але ўсе іх дасягненні і страты ў канчатковым выніку былі толькі іх дасягненнямі і стратамі, а не чымсьці яшчэ.

Аддзяленне асобы кіраўніка ад дзяржавы — не падзея, а працэс, які расцягнуўся ў Еўропе на два з паловай стагоддзі. За пункт адліку прымем факт выкарыстання каралеўскай пячаткі Генрыха VIII (кароль Англіі 1509–1547 гг.) выключна для яго асабістага ліставання. Сімвалам жа дзяржавы стала Вялікая дзяржаўная пячатка.

Як тут ні прыгадаць героя рамана «Прынц і жабрак» Тома Кенці, які калоў арэхі Вялікай дзяржаўнай пячаткай. Яе знікненне не дазволіла пакараць смерцю гофмаршал Норфалька, падазраванага ў здрадзе.

Без пячаткі прысуд не мог быць прыведзены ў выкананне. Пустая фармальнасць? Не, захаванне нормаў закона. Дзяржава — гэта супольнасць людзей, якія кіруюцца законамі, а не капрызамі першай асобы. У Англіі пры Генрыху VIII гэта ўжо разумелі.

«Трэба сказаць, — заўважае акадэмік Юрый Піварараў, — што ў еўрапейскай гісторыі працэс аддзялення суверэнітэту ад уладнай асобы нярэдка праходзіў у форме аддзялення галавы гэтай асобы ад яе тулава. Карл I Сцюарт, Людовік XVI Бурбон».

Англійская рэвалюцыя паказала, што суверэнітэт, засяроджаны ў асобе караля, можа знаходзіцца і ў іншым месцы. 19 мая 1649 года, падчас пурытанскай рэвалюцыі, парламент абвясціў: «Народ Англіі пастанавіў быць палітычнай супольнасцю і свабоднай дзяржавай і з гэтага часу кіравацца як палітычная супольнасць і свабодная дзяржава вышэйшай уладай гэтай нацыі — прадстаўнікамі народа ў парламенце».




## Дзяржава як хатняя гаспадарка

Цэнтралізацыя ўлады сама па сабе яшчэ не раўназначная стварэнню сучаснай дзяржавы. Але толькі сучасная дзяржава можа быць «моцнай», аднак для гэтага яна павінна абапірацца не на харызматычнага лідара, а на народ як палітычную супольнасць.

На жаль, «чалавек савецкі» ўсё яшчэ колькасна пераважае ў беларускім грамадстве. Ён зручны ў якасці аб'екта кіравання, але чакаць ад яго дзеянняў, вартых палітычнага суб'екта, значыць прымаць жаданае за сапраўднае. Таму АП і не адчувае патрэбы «гуляць у нейкую незразумелую дэмакратыю». Навошта, калі можна кіраваць краінай як уласнай хатняй гаспадаркай.

Тэрміны «палітычная сістэма» і «палітычная ўлада», запазычаныя з заходніх гуманітарных навук, тут не зусім карэктныя. Улада ў Беларусі па сваёй прыродзе вотчынная (патрыманіяльная, у тэрміналогіі амерыканскага даследчыка Рычарда Пайпса). Такі тып улады неаддзельны ад уласнасці. У гэтым і заключаецца яе галоўная характарыстыка, якая «па сумяшчальніцтву» з'яўляецца і галоўнай умовай яе ўзнаўлення. Наяўнасць Канстытуцыі з поўным наборам дэмакратычных «прыбамбасаў» справы істотна не мяняе. Па факце мы маем «канстытуцыйную манархію пад самадзяржаўным царом».

Сярэднявечныя еўрапейскія манархі таксама кіравалі сваімі ўладаннямі як хатнімі гаспадаркамі, аднак, па меры колькаснага росту і пашырэння кола абавязкаў адміністрацыйныя магчымасці двара дасягнулі сваёй мяжы, і пачаўся адваротны працэс. Напрыклад, каралеўскі чыноўнік, які загадваў фінансавымі справамі краіны, перастаў займацца фінансамі двара, а камандуючы арміяй — адказваць за каралеўскую ахову. Такім чынам, два віды функцый падзяліліся тэрытарыяльна, і двор стаў усяго толькі адным з многіх адміністрацыйных падраздзяленняў, у чые задачы ўваходзіла ўтрыманне асобы манарха.

Гэты ўзровень падзелу кіраўнічых абавязкаў беларуская мадэль не адолела. Двор (Адміністрацыя прэзідэнта) дамінуе над усімі дзяржаўнымі інстытутамі, у тым ліку над парламентам і ўрадам. Пры гэтым у Канстытуцыі правы і абавязкі Адміністрацыі прэзідэнта не прапісаныя. Працытую артыкул 84, пункт 5: «утварае (прэзідэнт), ліквідуе і рэарганізуе Адміністрацыю прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». І гэта ўсё!

## Стабільнасць — ахілесава пятка беларускай мадэлі

Зноў звернемся да дапамогі Юрыя Піварарава: «Калі на Захадзе саслоўі адрозніваліся адзін ад аднаго аб'ёмам і тыпам павіннасцяў і свабод, дык у нас — толькі павіннасцяў (цягла). Такім чынам, праблематыка аўтаноміі індывіда, правоў чалавека паўстаць тут не магла. Як, зрэшты, і асновы для фарміравання прававой дзяржавы».

Мне ўжо неаднаразова даводзілася звяртаць увагу чытачоў НЧ на захаванне ў Беларусі саслоўнай структуры грамадства. Гэта адбываецца не па прычыне нечага персанальнага капрызу. Рынкавыя прынцыпы збору і наступнага пераразмеркавання рэсурсаў у беларускай мадэлі існуюць на птушыных правах, іх дапускаюць толькі ў той меры, у якой яны кампенсуюць правалы цэнтралізаванага (адміністрацыйнага) кіравання рэсурснымі патокамі.

Але з вяршыні ўладнай «вертыкалі» індывідуальных плацельшчыкаў падаткаў і атрымальнікаў рэсурсаў не разглядзець, таму іх аб'ядноўваюць у групы (саслоўі). Доступ саслоўяў да дзяржаўнай кармушкі вызначаецца іх укладам у падтрыманне стабільнасці, якая выступае сінонімам прынцыпу нязменнасці ўлады. Зразумела, што першымі ў чарзе стаяць «людзі ў пагонах» і дзяржаўныя службоўцы. Спіс іх прывілеяў шырокі. Нядаўна ён быў пацверджаны ў ходзе так званай «пенсійнай рэформы».

У сучасных умовах утрымаць у раўнавазе вертыкальную сацыяльную структуру, пабудаваную паводле сярэднявечных лякалаў, няпроста. Таму не варта здзіўляцца страхам, якія рэгулярна прарываюцца ў выступах АП. Напрыклад: «...сітуацыя вакол няпростая, і нам любымі спосабамі трэба ўтрымаць краіну. У адваротным выпадку мы скоцімся да таго, што адбываецца ў асобных дзяржавах, у тым ліку і ў нашых суседзяў. Гэтага дапусціць нельга. Не трэба тут казаць, што мы чагосьці баімся. Калі і баімся, дык толькі за сваю краіну, каб яе захаваць. Вось асабіста я за гэта баюся, перажываю, як заўгодна можна гэта называць» (27 студзеня 2015 года).

Калі ўвесь пар сыходзіць у паравозны гудок, разлічваць на рух чыгуначнага саставу строга па раскладзе не даводзіцца. Калі свае асноўныя намаганні ўлада скіроўвае на падтрыманне стабільнасці, бессэнсоўна спадзявацца на рост даходаў насельніцтва. Гэтую ісціну многім беларусам наканавана ўсвядоміць у бліжэйшыя год-паўтара.

# Свабода прэсы ці свабода ад прэсы


Фота www.grani.lv

**Мас-медыя на гэтым тыдні адзначылі аж тры прафесійныя святы. 3 мая па ініцыятыве ААН адзначаецца Сусветны дзень свабоды друку. 5 мая — айчынны Дзень друку, што застаўся ад савецкіх часоў, а 7-га — Дзень радыё і тэлебачання. Аднак усе гэтыя святы — са слязамі на вачах.**


Сяргей ПУЛЬША

## Ніжэй за плінтус

У штогадовым рэйтынгу свабоды прэсы, які складае арганізацыя Freedom House, Беларусь па выніках 2015 года паднялася з 194 месца на 192, але ўсё роўна апынулася ніжэй за Сірыю, Іран, амаль усе афрыканскія краіны, Кітай, Азербайджан, Казахстан і іншыя краіны, палітычныя рэжымы якіх складана назваць больш мяккімі, чым у Беларусі.

Падаецца, такое месца дае магчымасць аспрэчваць сам рэйтынг. Сапраўды, пра якую свабоду друку можна казаць у Сірыі, дзе ідзе вайна, альбо ў Кітаі, які стаў сімвалам кантролю інтэрнэту?

А Беларусь жа наладжвае адносіны з Захадам і, нібыта, вырываецца з самаізаляцыі. Вось нядаўна Еўропа скасавала санкцыі супраць беларускіх чыноўнікаў. Праўда, у патрабаваннях Еўропы да сінявокай свабода прэсы гучыць такім жа «заклінаннем», як і патрабаванне правесці выбары па стандартах АБСЕ. І, як і ў пытанні выбараў, у сістэме СМІ нічога не змяняецца. У прынцыпе, гэта заканамерна, бо свабодныя СМІ — неад'емная частка выбарчага працэсу. Без свабодных СМІ няма дыскусіі ў грамадстве, няма абмеркавання кандыдатаў і іх праграм, а значыць, няма і асэнсаванага выбару.

## Пятля, да якой прызвычаіліся

Ёсць такі стары анекдот пра тое, як павесілі беларуса. Праз гадзінку прыйшлі, а беларус вачыма лупае. «Як так?» — пытаюцца. А ў адказ: «Спачатку цяжкавата дыхаць было, потым прызвычаіўся».

Беларускія недзяржаўныя СМІ — той жа беларус, якога не вытруціш і дустам. Калі вяртацца да рэйтынгу, то дырэктар аддзела Freedom House ў Вільні (які, у тым ліку, адказвае і за Беларусь) Віціс Юрконіс патлумачыў нізкае месца Беларусі вельмі проста. «У вас пазітыўных зменаў няма. На міжнародных мерапрыемствах, кажучы пра Беларусь, я бачыў здзіўленне журналістаў або блогераў з Кубы, Афганістана, Анголы ці М'янмы. Для іх некаторыя абмежаванні свабоды слова ў Беларусі выглядалі неспасціжнымі, яны не маглі паверыць, што такое магчыма ў еўрапейскай краіне», — сказаў ён TUT.by.

Па яго словах, праблемы Беларусі ў сферы свабоды слова звязаны з «занадта вялікім уплывам і ціскам уладаў».

Так, беларускі друк хутчэй выжывае, чым жыве. Шматлікія рэпрэсіўныя абмежаванні, якія ўсталёўваліся падчас «ідэалагічнай барацьбы», ніколі і нікім не здымаліся, і фармальна працягваюць дзейнічаць бясконца.

Напрыклад, перад прэзідэнцкімі выбарамі 2001 года для дзяржаўных прадпрыемстваў была папера «для службовага карыстання» з загадам не даваць ніякай рэкламы «нячэсным» — тобок, недзяржаўным сродкам масавай інфармацыі. Потым пачалі «ціснуць» прыватнікаў: рэклама ў недзяржаўных СМІ выклікала падатковыя праверкі і іншыя непрыемнасці. Даходзіла да таго, што бізнесоўцы гатовыя былі даць грошы любімай газеце «на рэкламу, але без рэкламы».

«Барацьба са штучнымі манаполіямі», якую дваццаць гадоў вядзе Беларусь, ніяк не адбіваецца на скасаванні манаполіі «Белпошты» і «Белсаюздрука» на распаўсюд друкаваных выданняў. Зразумела, «непажаданыя» выданні ў гэтых сістэмы не трапляюць. Ніхто, канешне, не кажа пра палітыку: проста гэтыя структуры афіцыйна з'яўляюцца «камерцыйнымі». І на ўсе запыты аб распаўсюдзе адказ адзін: «Заключаць з вамі кантракт на распаўсюд — нашае права, а не абавязак. А мы з вамі заключаць кантракт не хочам».

Напрыканцы 2008 года ўлады пагадзіліся на «лібералізацыю» і перадалі Еўрасаюзу сваю згоду на некаторыя змены ў Выбарчы кодэкс. Сярод іншага ў дакуменце паведамлялася пра дазвол на распаўсюд «Народнай волі» і «Нашай Нівы». Гэтыя два выданні і вярнуліся ў дзяржаўную сістэму распаўсюду. Вось і задавайце пытанне: «Белсаюздрук» і «Белпошта» — камерцыйныя структуры, і палітыка тут ні пры чым?

## Выклік часу...

Што тычыцца ўлюбёных газет, то на пытанне іх беларускай «зарэгуляванасці» накладаецца пытанне тэхнічнага прагрэсу. Шэф-рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Дынько, напрыклад, лічыць, што беларускія перыёдыкі зараз знаходзяцца на тым жа этапе, што і іх сусветныя калегі. «Яе значэнне змяншаецца, таму што расце значэнне інтэрнэту як каналу перадачы інфармацыі, і ў прыватнасці — сацыяльных сетак», — кажа Дынько.

Па ягоным меркаванні, з гадамі значэнне друкаванай прэсы будзе змяншацца. «Самая вялікая праблема — гэта выклік інтэрнэту. Якім чынам перайсці ад продажу папяровых носьбітаў да продажаў у інтэрнэце. Трэба быць рэалістамі. Час друкаваных выданняў мінае», — лічыць шэф-рэдактар НН.




Але апакаліпсічныя для газет прагнозы падзяляюць не ўсе. Рэдактар «Народнай волі» Іосіф Сярэдзіч пярэчыць Дыньку: «Пры нашым жыцці, і нават пасля нас, інтэрнэт не заменіць папяровае выданне». Проста таму, што гэта розныя сегменты СМІ.

«У інтэрнэта — свае задачы, у друкаваных выданняў — свае. Інтэрнэт — гэта аператыўная крыніца інфармацыі, а папяровыя выданні — гэта, у першую чаргу, глыбокая аналітыка. Тое, што прымушае чалавека думаць», — кажа Сярэдзіч. І пры гэтым не хвалюецца за канкурэнцыю, якую газетам складае інтэрнэт, бо ніякай канкурэнцыі не бачыць. Пра яе адсутнасць, зважае рэдактар «Народнай Волі», сведчыць тое, што тыраж ягонай газеты не падае.

Варта зазначыць, што так думае не толькі Сярэдзіч. Напрыклад, Юры Пургін, кіраўнік аднаго з найбуйнейшых расійскіх медыяканцэрнаў «Алтапрэс» таксама зазначае: зараз моладзь сядзіць у інтэрнэце. Але гэтая моладзь сталее — і пачынае набываць друкаваныя выданні. Таму пра смерць «паперы» казаць не даводзіцца.

## ...І выклік прасторы

Прэса — толькі люстэрка грамадства. І, па словах Сярэдзіча, найгоршае, з чым сутыкаюцца беларускія газеты, — апатыя беларускага грамадства. «Стопрацэнтная апатыя, якая выкліканая застоем двух апошніх дзесяцігоддзяў у палітычным жыцці краіны, адмоўна адбіваецца і на выданнях. Мне здаецца, у значнай часткі людзей адпала ўсялякая ахвота наогул знаёміцца з нейкай інфармацыяй, чытаць навіны, аналітычныя артыкулы... У Беларусі ўсім усё да лямпачкі. І гэта страшная тэндэнцыя. Невядома, чым гэта скончыцца», — кажа Сярэдзіч.

Але і гэтая апатыя, на думку рэдактара, не сама сабою ўзнікла. «Шчыра скажам — людзі сёння абыякавыя не самі па сабе. Гэтая абыякавасць выкліканая запалохваннем, рэпрэсіўнымі мерамі, якія адбываюцца ў грамадстве. Бо дыскрымінацыя зараз ідзе ўжо не па прафесіях, а па поглядах людзей», — дадае ён. І ўпэўнены, што «калі зменіцца палітычная сітуацыя ў краіне, — тыраж «Народнай Волі» падскочыць у некалькі разоў».

## Выйсці з кола

Атрымліваецца, беларуская прэса зараз — у своеасаблівым замкнутым коле. Без свабоднага грамадства цяжка існаваць свабоднай прэсе. А без свабоднай прэсы не можа існаваць і свабоднае грамадства.

Пакуль яшчэ адтулінай, выспай свабоды слова застаецца той самы інтэрнэт. Але і яго ўлады імкнуцца ўзяць пад кантроль. Ад 2010 года дзейнічае Указ №60, які прадугледжвае абмежаванне доступу да інтэрнэт-рэсурсаў з незаконным або непажаданым кантэнтам. Напачатку 2015 года набылі моц змены ў закон аб СМІ, згодна з якімі Мінінфармацыі можа «перакрываць» доступ не толькі да айчынных, але і да замежных сайтаў. «Генеральная рэпетыцыя» такой блакіроўкі прайшла напрыканцы 2014 года, калі кіраўніца Мінінфарму Лілія Ананіч абвінавáціла журналістаў у раздуванні панікі на валютным рынку. Праўда, гэты рынак і без таго ляжаў пад «дэнамінацыяй» і знакамітым «падаткам на абмен валюты». Больш за дзясятак афіцыйна зарэгістраваных СМІ некалькі дзён былі «закрытыя» для беларускага гледача.

Варта заўважыць — закрытыя незаконна, бо на той момант папраўкі ў закон не набылі моц. І, што характэрна, адказнасці за парушэнне свабоды слова ніхто так і не зазнаў.

Ціск на інтэрнэт будзе толькі павялічвацца. У пасланні народу і парламенту Аляксандр Лукашэнка зазначыў, што дзяржава будзе імкнуцца і надалей кантраляваць інтэрнэт і СМІ. «Мы не звярталі ўвагі на тое, хто сюды прыходзіў. Хто хацеў, той і прыходзіў. Што хацеў, то і рабіў. А ў нашых інтарэсах (і ў нас ёсць магчымасці), каб адрэгуляваць гэты від дзейнасці. І нам варта пачынаць гэта рабіць. І мы гэта пачалі. І зробім. Як па інтэрнэце, так і па сродках масавай інфармацыі», — сказаў Лукашэнка. І дадаў, што зараз ягоны дарадца Усевалад Янчэўскі і тая ж Лілія Ананіч «займаюцца выпрацоўкай правілаў пранікнення праз нашы вароты вось гэтых інфармацыйных каналаў».

## Беларусь ці Сірыя?

Калі паглядзець на сітуацыю комплексна, то з рэйтынгам Freedom House можна пагадзіцца. У Сірыі журналіста могуць забіць падчас ваенных дзеянняў, і праца там лічыцца небяспечнай. А ў Беларусі свабода слова знаходзіцца пад свядомым, планамерным і мэтанакіраваным ціскам. Вось таму наша краіна ў рэйтынгу — ніжэй за Сірыю.

І толькі існаванне недзяржаўных СМІ, якія можна пералічыць па пальцах, не дае нам скаціцца да ўзроўню Паўночнай Карэі.

6 мая 2016 | № 18 (483) Новы Час

Алег НОВІКАЎ

# Сербія: перамога за

**Вынікі сербскіх парламенцкіх выбараў, якія, як вядома, адбыліся 24 красавіка, расійская прэса ўспрыняла як здраду з боку сербаў, якія, маўляў, прадаліся Еўропе. Пра падрабязнасці і абставіны выбару сербскага грамадства размаўляем з сербскім эколагам Веснай Юсуп.**



***— «Вось табе і сербскія братушкі», «Удар у спіну Масквы», «Братэрскія народы: камень, нажніцы, папера». Гэта загалоўкі расійскіх СМІ, прысвечаныя вынікам парламенцкіх выбараў у Сербіі, на якіх перамаглі прыхільнікі еўрапейскага выбару: «прагрэсісты» і сацыялісты разам набралі 59% галасоў. Як ты пракаментуеш такую рэакцыю расійскага грамадства?***

— Мне падаецца, што расійская грамадскасць вельмі слаба ўяўляе сербскія рэаліі. Усе адэкватныя палітыкі ў Сербіі стаяць на еўрапейскай глебе. Без супрацоўніцтва з Еўропай немагчымыя інфраструктурныя рэформы, мадэрнізацыя, прыход інвестыцый. Сімпатыі на адрас Расіі таксама, аднак гэта хутчэй нейкая ўдзячнасць за ролю Расіі ў вызваленні балканскіх народаў у XIX стагоддзі. У любым выпадку, русафілія не мае пад сабой ніякай палітычнай перспектывы. Самы вялікі сербскі прыхільнік еўраінтэграцыі можа публічна казаць, што ён сябра Расіі — і нікога гэта не шакуе. Напэўна, у Расіі палічылі здрадай адносна слабы паказчык нацыяналістаў-еўраскептыкаў на фоне поспеху партый, якія лічацца праеўрапейскімі.

***— З улікам іміграцыйнага крызісу Еўрасаюза, еўрафобскіх тэндэнцый і нарастаючага скепсісу наконт перспектыў пашырэння ЕС, трыумф праеўрапейскіх партый выглядае трошкі дзіўна...***

— У дачыненні да Сербіі сітуацыя асаблівая. Існуе прынятая яшчэ да цяперашняга крызісу дарожная карта далучэння да Еўрасаюза. Паводле яе, у выпадку выканання ўсіх умоў, краіна атрымае шанс падаць заяву на ўступленне ў ЕС прыкладна пасля 2019 года. Пакуль ніякіх сігналаў пра перагляд дамовы з боку Брусэлю не было. Наадварот, падчас выбараў кіраўніцтва ЕС заклікала трымаць рэфарматарскі тэмп.

***— Знаёмства з сербскай палітычнай кухняй не можа не выклікаць здзіўлення. Аляксандр Вучыч, галоўны прыхільнік еўраінтэграцыі, лідар Сербскай прагрэсіўнай партыі, яшчэ ўчора лічыўся галоўным лабістам расійскіх інтарэсаў, а яшчэ раней засвяціўся ў якасці міністра інфармацыі ў камандзе Мілошавіча. Таго самага Мілошавіча, які ў 1990-я гады меў у Еўропе статус «вораг нумар адзін».***

— Палітычная памяць — не канёк сербскага выбаршчыка. Тэма мінулага палітыкаў мала агучваецца падчас выбарчых кампаній. Як правіла, гэта канкурэнцыя харызмы лідараў партый і іх абяцанняў. Таму змена ўрада зводзіцца, як правіла, да змены каманды, якая кантралюе фінансавыя патокі і адказвае за дзяржсектар, куды ідуць бюджэтныя грошы. Асаблівасць цяперашніх выбараў — у тым, што ўзнікла перспектыва фармавання аднапартыйнага кабінету — Прагрэсіўная партыя набрала 48% галасоў. Акрамя таго, сапраўды назіраецца актывізацыя еўраскептыкаў у выглядзе нацыяналістаў, якіх, быццам бы, падтрымлівае Масква. Яны зараз маюць трэцюю фракцыю ў парламенце.

**Русафілія не мае пад сабой ніякай палітычнай перспектывы. Самы вялікі сербскі прыхільнік еўраінтэграцыі можа публічна казаць, што ён сябра Расіі — і нікога гэта не шакуе**



Весна Юсуп



Алег ПАНФІЛАЎ, спецыяльна для НЧ

# Сербскія выбары

**Сербы, якія перажылі навязлівае каханне Расіі, хлусню і падман Крамля, вырашылі зрабіць выбар: на парламенцкіх выбарах перамагла партыя Аляксандра Вучыча, праеўрапейскага палітыка.**




Сербская прагрэсіўная партыя прэм'ера Аляксандра Вучыча перамагла, але ў парламент увойдзе і партыя Ваіслава Шэшаля, сербскага нацыяналіста, і, магчыма, яшчэ дзве-тры прарасійскія партыі.

Аляксандр Вучыч стаў ініцыятарам правядзення пазачарговых выбараў, каб паспрабаваць наблізіць Сербію да Еўрасаюза і NATO. Збольшага гэта атрымалася, але не так бліскуча, як спадзяваліся. Наўрад ці варта радавацца палавіністай перамозе Вучыча.

У панядзелак Федэрыка Магерыні, вярхоўны прадстаўнік Еўрапейскага саюза па замежных справах і палітыцы бяспекі, а таксама сябар Еўракамісіі па перамовах аб пашырэнні Еўрасаюза Ёханэс Хан выказалі задавальненне. «Грамадзяне Сербіі паказалі моцную падтрымку стратэгічнай мэты сваёй краіны далучыцца да ЕС. Яны ўсклалі на пераможцаў — Сербскую прагрэсіўную партыю і яе лідара, прэм'ер-міністра Аляксандра Вучыча — вялікую адказнасць. Мы з нецярпеннем чакаем своечасовага фарміравання парламента», — было напісана ў камюніке высокапастаўленых прадстаўнікоў ЕС.

Каментар Дэпартамента інфармацыі і друку МЗС Расіі быў вельмі лаканічным: «разлічваем на пераемнасць у яго працы на аснове раней дасягнутых пазітыўных вынікаў па ўсіх пытаннях расійска-сербскіх адносін». Менавіта гэта і насцярожвае актывістаў «рускага свету», якія марыць калі не пра сусветнае панаванне, дык як мінімум разлічваюць на працяг балканскай гульні, у якой Крэмль заўсёды надаваў асаблівае месца Сербіі і Балгарыі. Апошняя нарэшце рашуча адышла ад Масквы, цяпер чарга за Сербіяй.

Услед за Грузіяй, Малдовай, Украінай і Балгарыяй, пасля не зусім інтэграцыйных заяваў Мінска і Астаны, Крэмль губляе сваё апошняе апірышча. Сербія сябравала з Расіяй на працягу многіх гадоў, з таго часу, як Слабадан Мілошавіч у 1991 годзе стаў яе першым прэзідэнтам і практычна адразу развязаў дзве вайны з саюзнымі рэспублікамі — са Славеніяй і Харватыяй.

**Вучыч можа казаць пра асаблівыя адносіны з Масквой, але гэта хутчэй даніна традыцыям апошніх двух-трох дзесяцігоддзяў, чым «шматвяковае сяброўства»**

Мілошавіч і Пуцін вельмі падобныя адзін да аднаго, хоць розніца ва ўзросце давала сербскаму нацыяналісту перавагу. Абодва — камуністы, абодва будавалі новую ідэалогію, у аднаго «рускі свет», у другога — «сербскі». Як і Пуцін, Мілошавіч спрабаваў утрымаць югаслаўскую імперыю, якая пачала распаўзацца. Пуцін палічыў, што яму даруюць і Чачню, і Грузію, і Дагестан, і Украіну. Мілошавіч здагадваўся, што яму не даруюць, таму ваяваў адчайна, падтрымліваючы сербскі нацыяналізм, які да сярэдзіны 1990-х гадоў стаў адкрытым нацызмам.

Сербы ваявалі супраць усіх — славенцаў, харватаў, баснійцаў, касавараў-албанцаў, македонцаў. Толькі чарнагорцаў мінула крывавая вайна, і, хутчэй за ўсё, таму, што Мілошавіч сам родам з Чарнагорыі. Дзякуючы расійскай прапагандзе, асабліва з пачатку праўлення Пуціна, расіяне да гэтага часу не ведаюць пра маштабныя злачынствы, у якіх абвінавачваюць сербскіх палітыкаў і вайскоўцаў. Гісторыя Югаславіі была ў чымсьці падобная да расійскай: з 1918 года гэта было Каралеўства Сербаў, Харватаў і Славенцаў, з 1929-га да пачатку Другой сусветнай вайны — арыентаванае на Захад Каралеўства Югаславія. Пасля вайны ўладу захапілі камуністы на чале з маршалам Ціта, які кіраваў краінай да 1980 года.

Любоў да сербаў — хутчэй сучаснае расійскае вынаходства. Менавіта з пачатку вайнаў Мілошавіча ў Югаславію, што стала развальвацца, пачалі накіроўвацца шматлікія расійскія добраахвотнікі. Яны ваявалі на баку сербаў. Тады і з'явілася новая ідэалагічная аснова — «праваслаўнае брацтва». Не з харватамі-каталікамі

# еўрапейскай стабільнасцю

***— Як можна ацаніць вынікі Ваіслава Шэшаля і яго нацыяналістаў?***

— У прынцыпе, гэта адносны поспех. Яны пераадолелі пяціпрацэнтны бар'ер, і праз чатыры гады вяртаюцца ў парламент. Аднак усё ж ад іх чакалі большага. Праўда, тут былі аб'ектыўныя падставы. Найперш, раптам знік «косаўскі фактар», на якім актыўна гралі правыя: Прышціна пагадзілася даць сербам, якія кампактна жывуць на Поўначы краю, аўтаномію. У выніку тэма Косава на выбарчых дэбатах амаль не абмяркоўвалася. Падкасіла шанцы нацыяналістаў і тое, што нядаўна была закрытая мяжа з Македоніяй і Грэцыяй. Транзіт уцекачоў праз Сербію зараз не такі буйны і не дазваляе еўрафобам спекуляваць на іміграцыйным крызісе.

***— Ці існуе ў Сербіі настальгія па часах Ціта? Ці здольнае мінулае палітычна мабілізаваць сербскі электарат?***

— Настальгія па Югаславіі характэрная для больш сталага насельніцтва, аднак нават самыя вялікія ахвяры югаслаўскага міфа прызнаюць: аднавіць той праект немагчыма. У дадатак успаміны пра часы Ціта і настальгія па іх якраз не азначаюць сімпатыі на адрас Масквы, якая, як вядома, мела спецыфічныя адносіны з Бялградам.

***— Ці ўплываў на выбаршчыкаў досвед Харватыі, якая стала сябрам ЕС у 2013 годзе?***

— Пакуль асаблівых поспехаў сяброўства ў ЕС краіне не прынесла, аднак у Харватыі ёсць прагрэс у барацьбе з карупцыяй. Пад наглядам Брусэля харвацкім уладам давялося рэфармаваць частку антыкарупцыйнага заканадаўства. Еўрапейцы ўвогуле жорстка назіраюць за выкананнем такога кшталту законаў, што выклікае зайздрасць у сербаў. Над нашымі чыноўнікамі ніхто не стаіць, гэта дазваляе ім рабіць усё, што заўгодна. Як эколаг я ўзгадаю такі нонсэнс: у Сербіі няма міністэрства экалогіі. За гэтую сферу адказвае Мінэнергетыкі. Безумоўна, у краіне — сябры ЕС такое немагчыма. Таксама харвацкі досвед імпануе сербам тым, што ЕС заўсёды апякуецца краінай-сябрам, ніколі не пакідае яе без падтрымкі.

***— Што бліжэйшым часам чакае Сербію?***

— Спачатку перамовы наконт фармату ўраду. У прынцыпе, Вучыч ішоў на выбары, каб кіраваць самастойна. Пасля таго, як урад будзе сфармаваны, ён павінен запусціць прыватызацыю дзяржсектара. А гэта шмат у каго выклікае сумнеў. Што тычыцца апазіцыі, то яна баіцца, што Вучыч захоча стаць сербскім Орбанам. Павесці краіну аўтарытарным шляхам. У любым выпадку, пасля 2019 года, калі павінны распачацца перамовы пра ўступленне ў ЕС, у сербскай гісторыі пачнецца новая старонка.



Фота www.direktno.hr

**Настальгія па Югаславіі характэрная для больш сталага насельніцтва, аднак нават самыя вялікія ахвяры югаслаўскага міфа прызнаюць: аднавіць той праект немагчыма. У дадатак успаміны пра часы Ціта і настальгія па іх якраз не азначаюць сімпатыі на адрас Масквы, якая, як вядома, мела спецыфічныя адносіны з Бялградам**

# і крамлёўская адзінота

ж сябраваць, а тым больш не з баснякамі-мусульманамі або мусульманамі-албанцамі! Хутчэй за ўсё, пра «рускі свет» тады мала казалі, але цяперашнія расійскія ідэолагі прайшлі ўсе югаслаўскія войны — і Лімонаў, і Дугін, і Стралкоў-Гіркін, і тысячы іншых.

На самай справе, на лаве падсудных «Міжнароднага трыбунала для судовага пераследу асоб, адказных за сур'ёзныя парушэнні міжнароднага гуманітарнага права, учыненых на тэрыторыі былой Югаславіі з 1991 года» ў Гаазе павінны сядзець і расіяне. Беспакаранасць спарадзіла наступныя злачынствы: да прыкладу, Дугін быў ініцыятарам падрыхтоўкі добраахвотнікаў для вайны ў Грузіі ў жніўні 2008 года. Многія з расійскіх ветэранаў югаслаўскіх войнаў маюць дачыненне да стварэння «рускага свету» на ўсходзе Украіны.

Нельга сказаць, што расійскія тэлеканалы да 2000 года нічога не распавядалі пра падзеі ў былой Югаславіі. У наваколлі горада Хрвацка Костайніца 1 верасня 1991 года загінулі два журналісты — Віктар Нагін і Генадзь Курэнны. Тады яшчэ быў Савецкі Саюз, і журналісты адкрылі зараз ужо велізарны спіс загінулых рэпарцёраў. Сімпатыі расійскіх палітыкаў таго часу падзяліліся, але са з'яўленнем у Крамлі Пуціна тэлебачанне казала выключна пра няшчасных сербаў, «нашых аднаверных братоў», якім не дае жыць Захад, а NATO — забівае.

Менавіта пра гэта мы яшчэ тады, у 2000 годзе, мелі намер напісаць кнігу — пра новую інфармацыйную вайну, у якой «гінулі» выключна расіяне, што нічога не ведалі пра зверствы, этнічныя чысткі і масавыя забойствы, і таму меркавалі пра сітуацыю выключна паводле прапаганды. Рускія нацыяналісты загартоўваліся ў Югаславіі, там жа атрымлівалі ваенны досвед, адтуль вярталіся ідэолагамі новага «рускага свету». Мала хто ўсведамляў падабенства прычын развалу Югаславіі і СССР, асабліва падабенства нацыянальнай палітыкі ў шматнацыянальнай дзяржаве. Югаславія стала прыкладам таго, як камуністы пагарджалі правамі і свабодамі іншых народаў, калі на чале краіны стаяў серб.

У адносінах сербаў і прадстаўнікоў «рускага свету» існуе толькі палітычная мэтазгоднасць, але калі палітыкі спрабуюць растлумачыць, што яшчэ можа аб'ядноўваць два народы, дык пачынаюць блытацца ў паказаннях. Зусім іншыя традыцыі, зусім іншая кухня, зусім іншая музычная культура, нязначнае падабенства мовы і зусім іншая ментальнасць, сфарміраваная на балканскіх традыцыях, — нішто не падобнае ні да разанскіх, ні да наўгародскіх. Сербы — паўднёвыя славяне, за шмат стагоддзяў яны зазналі асіміляцыю з суседнімі народамі і моцны ўплыў буйнейшых нацый, напрыклад, турак.

Непрыемнасці ў Крамля пачаліся ў 2006 годзе, калі Чарнагорыя правяла рэферэндум і выйшла з Дзяржаўнага Саюза Сербіі і Чарнагоры. 29 ліпеня 2008 года Сербія і ЕС падпісалі Пагадненне аб стабілізацыі і асацыяцыі, праз год, 22 верасня 2009 года, Сербія падала заяўку на ўступленне ў ЕС. 1 сакавіка 2012 года Сербія атрымала афіцыйны статус краіны-кандыдата на ўступленне. Да таго часу Славенія ўжо была з 2004 года сябрам ЕС, Харватыя ўступіла ў 2013 годзе. Асацыяванымі сябрамі з'яўляюцца Боснія і Герцагавіна (з 2008 года), Косава (2015), Македонія (2001), Чарнагорыя (2010) і Сербія (2011). Славенія таксама з'яўляецца сябрам NATO з 2004 года, на пяць гадоў пазней сябрам NATO стала Харватыя, астатнія краіны ці з'яўляюцца ўдзельнікамі Плана дзеяння ў па сяброўству, ці ўдзельнікамі індывідуальнага партнёрства, як Сербія.

Зараз у Аляксандра Вучыча ёсць усе шанцы падвесці Сербію да сяброўства і ў ЕС, і ў NATO нашмат хутчэй, чым планавалася. Традыцыйна, у тым ліку і Вучыч, можа казаць пра асаблівыя адносіны з Масквой, але гэта хутчэй даніна дзіўным традыцыям апошніх двух-трох дзесяцігоддзяў, чым «шматвяковае сяброўства». Суседзі Расіі, блізкія і далёкія, былыя партнёры і паплечнікі ў барацьбе за камунізм, ужо разумеюць перавагу развіцця і прагрэсу, у параўнанні з тайговым нацыяналізмам і бесперспектыўнасцю адносін з Расіяй. Крэмль застаецца ў адзіноце, кінуты ўсімі былымі «сябрамі». Дзіўна, як велізарная краіна з фантастычным капіталам давяла сябе да стану адзіноты.


Фота www.rtvslo.si

6 мая 2016 | № 18 (483) Новы Час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Да 2018 года будзе два прэзідэнты

Расійскія СМІ са спасылкай на інсайдарскія крыніцы ў Крамлі пішуць, што прынятае рашэнне ў бліжэйшы час не ўздымаць пытанне з назвай пасады кіраўніка Татарстану, які дэ-факта называецца прэзідэнтам. Нагадаем, што па закону РФ да 1 студзеня 2016 года кіраўнікі расійскіх рэгіёнаў былі абавязаныя выключыць з назвы сваёй пасады слова «прэзідэнт». Так зрабілі ўсе, акрамя аднаго — прэзідэнта Рэспублікі Татарстан (РТ) Рустама Мініханава. Той вырашыў застацца ў сваім статусе, і вось ужо чатыры месяцы ў РФ акрамя Пуціна існуе яшчэ адзін прэзідэнт. Той факт, што пракуратура праз пальцы глядзіць на такое нахабнае парушэнне федэральнага закона, сведчыць, што зараз для цэнтра на першым месцы палітычная мэтазгоднасць. Крамлю нявыгадна ціснуць на рэгіён, каб не сапсаваць імідж. Аднак у такой лініі ёсць свае мінусы. Кіраўнікі іншых рэгіёнаў, маючы перад вачыма прыклад Татарстана, могуць патрабаваць вярнуць сабе прэзідэнцкія пасады. Эксперты сыходзяцца ў думцы, што прэзідэнцкі статус у Мініханава з часам адбяруць. Аперацыю, якая павінна даслаць сігнал аб моцы вертыкалі ўлады, будуць намагацца правесці да прэзідэнцкіх выбараў 2018 года.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. Зорцы вестэрнаў прыгадалі забойствы індзейцаў

Правалілася адна з самых незвычайных ініцыятыў у гісторыі амерыканскага парламентарызму. Асамблея Каліфорніі 39 галасамі супраць 19 заблакавала ідэю абвесціць 26 мая ў штаце выходным днём. Нагодай для абвяшчэння 26 мая чырвонай датай каліфарнійскага календара мусіла быць тое, што менавіта ў гэты дзень у далёкім 1906 годзе нарадзіўся ледзь не самы славуты амерыканскі актор Джон Вейн (John Wayne). Вейн зрабіў сабе кар'еру як актор вестэрнаў і фактычна яшчэ ў 1940-х стаў сімвалам Галівуду. Яго вобраз на экране шмат для каго быў вобразам сапраўднага амерыканца. Магчыма таму смерць Вейна ў 1979 годзе ўспрымалася ледзь не як знак заняпаду ЗША. У гэтым плане ідэя ўвесці ў мясцовы каляндар святаў Дзень Джона Вейна ў чымсьці слушная. Аднак у выніку перамагла палітычная карэктнасць. Дэпутаты, пераглядзеўшы перад галасаваннем фільмы з удзелам Вейна, убачылі, што іх герой забівае на экране занадта шмат індзейцаў. Апошняе, на іх думку, — негатыўны прыклад для мультынацыянальнага амерыканскага соцыуму.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. Кіраўніка царквы павінен прызначаць парламент

Група дэпутатаў Вярхоўнай Рады прапануе парламенту прызначаць кіраўніка Украінскай праваслаўнай царквы Маскоўскага Патрыярхату — самай буйной праваслаўнай канфесіі ва Украіне, якая падпарадкоўваецца Маскоўскаму патрыярхату. Адпаведны законапраект зарэгістравалі ва ўкраінскім парламенце 22 красавіка. Мэтазгоднасць такога механізму, на думку нардэпаў, заключаецца ў «адстойванні нацыянальных інтарэсаў», а таксама «абароне суверэнітэту і сабornasці Украіны». Каментары ініцыятывы ў большасці адмоўныя, паколькі гэтая мера нагадвае савецкія часы, калі царква жорстка кантралявалася дзяржавай. Акрамя таго, галовы многіх канфесій, якія працуюць ва Украіне, таксама знаходзяцца за мяжой. Прававы прэцэдэнт, на думку юрыстаў, можа быць пасля выкарыстаны, каб пашырыць практыку парламенцкага кантролю і ў дачыненні да іншых рэлігійных аб'яднанняў. Затое прапанову прывітала атэістычная грамадскасць, якая лічыць, што такі крок дазволіць паступова ўзяць пад кантроль сумнеўную камерцыйную дзейнасць царкоўных арганізацый.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### БЕЛЬГІЯ. Ёд — неад'емная частка рацыёну

На гадавіну Чарнобыля ўлады Бельгіі зрабілі сваім грамадзянам незвычайны падарунак. Міністр аховы здароўя Бельгіі абвясціў, што кожны грамадзянін 11-мільённай краіны хутка атрымае таблеткі, якія ўтрымліваюць ёд. Міністэрства раіць уключыць іх у паўсядзённы рацыён. Такім чынам чыноўнікі спадзяюцца падрыхтаваць арганізм бельгійцаў да магчымай радыяцыйнай пагрозы. Яна можна настаць, калі ісламскія тэрарысты рэалізуюць свой план, пра які стала вядома напярэдадні. Ёсць чуткі, што плануецца выкраданне супрацоўніка аднойз дзвюх АЭС, што працуюць у Бельгіі, для стварэння і так званай «бруднай» атамнай бомбы. З улікам таго, што 11 бельгійскіх атамшчыкаў зараз праходзяць праверку на сувязі з тэрарыстамі, не выключана, што тэрарысты сапраўды падбіраліся да навуковага персаналу атамных станцый. Застаецца дадаць, што раней таблеткі з ёдам бясплатна атрымлівалі толькі тыя, хто жыве ў 20-кіламетровай зоне вакол атамных станцый.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.youtube.com

# Прыйшла казахская вясна

*Алег НОВІКАЎ*

**Спакойны Казахстан нечакана выбухнуў. Такой шырокай геаграфіі антыназарбаеўскіх пратэстаў гісторыя яшчэ не бачыла. Прычыны пратэстаў «Новы Час» абмяркоўвае з казахскім праваабаронцам Андрэем Грышыным.**

***— У некалькіх словах, які агульны стан пратэстнага руху ў Казахстане на пачатак мая?***

— Пратэсты, якія закончыліся сутычкамі з сілавікамі, прайшлі ў пяці гарадах. Апошняя бойка мела месца 1 мая ў Кызылардзе. Яшчэ ў шэрагу гарадоў адбыліся мірныя маніфестацыі. Былі спробы выйсці на вуліцы ў Алматы, аднак людзей жорстка спынілі. Для Казахстана, дзе апазіцыя даўно не высоўвае носу з кухняў, гэта нешта фенаменальнае. Нават з'явіўся тэрмін «казахская вясна». Пры гэтым відавочна, што ўлада пакуль не ў стане спыніць эпідэмію пратэстных настрояў.

***— 28 красавіка на экраны казахскіх кінатэатраў выйшаў чаргові эпізод кінабіяграфіі Назарбаева. У стужцы «Так скаліся зоркі», якая распавядае пра прыход Елбасы да ўлады, ён выяўлены як супермен на фоне «бюракрата» Гарбачова, «алкаголіка» Ельцына, «карупцыянера» Кунаева. Гэты панегірык падліў алею ў агонь незадаволенасці?***

— Наўрад ці, паколькі фільм з-за яго нізкай якасці застаўся амаль не заўважаны шырокай публікай. Хіба што ніхто не зразумеў — нашто было ўкладаць у вытворчасць такога слабага прадукту цэлых тры мільёны долараў? З іншага боку, «Так скаліся зоркі» стаў люстэркам адчужанасці ўлады ад грамадства. Нават падчас прэм'ерных паказаў, на якія пускаліся толькі самыя лаяльныя да рэжыму людзі, у залі адкрыта хіхікалі, калі на экране персанаж прэзідэнта рабіў нейкія пафасныя заявы або ўчынкі.

***— Асноўны лозунг маніфестантаў — незадаволенасць законам, які дазваляе прыватызацыю зямлі іншаземцамі. Чаму гэта мабілізавала грамадскасць Казахстана, у тым ліку ў буйных гарадах?***

— Гэтая тэма ўсплыла трошкі выпадкова. Так здарылася, што яе ўзнялі ў правінцыі падчас першых пратэстаў. Удзельнікі наступных акцый інерцыйна высоўвалі такое ж патрабаванне. На самай справе, людзей выводзіць на вуліцу простая ўстаноўка — «задзяўбаў!». Прычым, лозунг аб'ядноўвае не толькі моладзь, але і дарослых казахаў.

***— Якая рэакцыя ўлады на пратэсты?***

— Вярхі відавочна ахопленыя жахам і не разумеюць, што адбываецца. 1 мая Назарбаеў наведаў Алматы. Такой сістэмы забеспячэння яго персанальнай бяспекі яшчэ не было. Практычна праз кожныя 50 метраў па маршруце прэзідэнцкага картэжу стаяў паліцэйскі. Што тычыцца непасрэдна рэакцыі на выступы,

> **28**
> **красавіка на экраны казахскіх кінатэатраў выйшаў чарговы эпізод кінабіяграфіі Назарбаева. У стужцы «Так скаліся зоркі» ён выяўлены як супермен на фоне «бюракрата» Гарбачова, «алкаголіка» Ельцына, «карупцыянера» Кунаева**

то афіцыёз актыўна эксплуатуе ўкраінскую тэму, распавядаючы, як дорага каштаваў Еўрамайдан краіне. А вось на месцах часам адбываюцца цікавыя працэсы. У некаторых месцах чыноўнікі паспрабавалі не даводзіць справу да разгонаў. Іншымі словамі, у часткі вертыкалі сапраўды хістанні ў галовах.

***— Ці нельга проста адмяніць супярэчлівы закон, каб паслабіць пратэсты?***

— Закон быў прыняты яшчэ ў лютым і павінен распачаць дзеянне ў ліпені. Паводле яго ўдвая павялічваецца тэрмін арэнды зямлі для іншаземцаў. Пасля арандатары будуць мець магчымасць выкупу ўчасткаў у прыватную ўласнасць. Адмяніць закон, з улікам татальнай падкантрольнасці ўсіх галін улады Назарбаеву, не цяжка. Праблема ў тым, што ён пісаўся пад кітайцаў. Хутчэй за ўсё, гэта быў кошт крэдытаў, якія Астана нахапала ў Пекіна. Цяжка ўявіць, як Елбасы зможа перагледзець закон у той час, як у Кітаі актыўна цікавяцца арэндай казахскіх земляў.

***— Як рэагуе на хвалю выступаў апазіцыя? Ці няма пагрозы, што Захад, зацікаўлены ў геапалітычнай стабільнасці ў рэгіёне, можа падтрымаць у цяперашняй сітуацыі Назарбаева?***

— Дэмакратычная апазіцыя фактычна зачышчаная. Для перастрахоўкі найбольш актыўныя атрымалі ўмоўныя тэрміны, што дазваляе ў любы час іх прэвентыўна арыштаваць. Рэшткі апазіцыі спрабуюць неяк выкарыстаць хвалю, аднак працэс ідзе без іх. Таму думаю, што пазіцыя Захаду будзе абыякавая пратэстоўцам.

***— Раней у прэсе шмат пісалі пра пагрозу экспансіі ісламістаў. Маўляў, на фоне эрозіі дэмакратаў, фундаменталісты ў Казахстане змогуць узяць на сябе функцыі апазіцыі. Ці гучаць на акцыях мусульманскія лозунгі?***

— Ісламісцкіх, як і антыкітайскіх лозунгаў падчас выступаў няма. Пратэсты накіраваныя выключна супраць сістэмы, якую ўвасабляе Елбасы.

***— Ці высунула «казахская вясна» новых лідараў?***

— Пакуль ніякіх новых публічных фігур няма. І гэта не дзіўна, бо каардынацыя і арганізацыя акцый ідзе праз закрытыя форумы ў інтэрнэце. Менавіта адсюль — заклікі ў дзяржаўнай прэсе забараніць як мінімум на пару месяцаў працу сацыяльных сетак.

***— Што будзе далей? Якія прагнозы?***

— У Азіі прагнозам і сцэнарам не вельмі давяраюць. Ці шмат па Афганістану сцэнарыяў спрацавала? Думаю, што ўлада будзе намагацца мабілізавацца і пратрымацца да ліпеня. Калі да пачатку ліпеня нічога не адбудзецца, пачнецца лета — у нас традыцыйна не багаты на палітычныя падзеі сезон. Аднак да лета яшчэ трэба дажыць.

# У долара не жаночы твар

Алег НОВІКАЎ

**Кансерватыўная Амерыка паўстала супраць рашэння міністра фінансаў Джэйкаба Лью адлюстраваць на 20-доларавай купюры легендарную чарнаскурую змагарку супраць рабства Гарыет Табмен.**




Фота www.allpozitive.ru

З улікам росту ўплыву жанчын на грамадска-палітычнае жыццё, нават дзіўна, што пра гендарны баланс на амерыканскіх доларах пачалі казаць толькі пару гадоў таму. Тым больш, што гістарычных прэцэдэнтаў хапае: жанчыны з'яўляліся на амерыканскіх грошах неаднаразова. З 1891 па 1896 год на срэбным сертыфікаце ў адзін долар была выяўлена Марта Вашынгтон, жонка першага прэзідэнта ЗША. У 1865–1868 гадах на купюру ў 20 долараў змяшчаўся партрэт індзейскай прынцэсы Пакахонтас. Нарэшце, у 1979–1981 гадах на манетах вартасцю, зноў жа, у адзін долар быў адбіты профіль актывісткі за правы жанчын XIX стагоддзя С'юзан Энтані.

Прыкладна два гады таму гэтая тэма зноў набыла актуальнасць — магчыма, не без меркантыльнага намеру яе лабістаў. Ледзь не галоўным маторчыкам рэформы выступіла дзяржсакратар ЗША Хілары Клінтан, у асобе якой ужо тады бачылі пераемніцу Барака Абамы. Ужо ў той час Хілары відавочна пралічвала канцэпцыю сваёй выбарчай кампаніі і, зразумела, думала пра тое, як атрымаць падтрымку жаночага электарату. Прадстаўніцы апошняга, натуральна, не маглі прайсці міма пражэктаў Клінтан у галіне фінансаў. У тым ліку таму, што Клінтан прапанавала не проста выпуск манеты, а змену дызайну аднаго з доларавых наміналаў за кошт размяшчэння на іх партрэту жанчыны. Выяву прэзідэнта планавалася з той купюры цалкам прыбраць.

Ідэя сапраўды знайшла прыхільнікаў. Шэраг феміністкіх арганізацый запусцілі дэбаты: чый партрэт павінен упрыгожыць купюру, і, адпаведна, каго з амерыканскіх гарантаў Канстытуцыі трэба зняць з грошай. Паводле апытанняў, лідзіравала ў кастынгу ўсё тая ж С'юзан Энтані. Саступіць ёй месца павінен быў Эндру Джэксан, які выяўлены на купюры наміналам у 20 долараў.

Чаму менавіта Джэксан, а не, скажам, Франклін або Грант? Адказ трэба шукаць у біяграфіі сёмага прэзідэнта ЗША, некаторыя старонкі якой выглядаюць супярэчлівымі з пункту гледжання цяперашніх каштоўнасцяў ЗША. Джэксан мала таго што быў плантатарам, дык яшчэ і паспеў зарэкамендаваць сябе як прыхільнік рабаўладальніцкай сістэмы.

Напэўна, таму на месца Джэксана лагічна паставіць жаночага апанента-абаліцыяніста. Праўда, гэта будзе не С'юзан Энтані, а Гарыет Табмен — легендарная змагарка за правы чарнаскурых (яе партрэт, дарэчы, быў змешчаны нават у савецкіх падручніках гісторыі). Як заявіў напрыканцы красавіка міністр фінансаў ЗША Джэйкаб Лью, новыя купюры з'явяцца ў 2020 годзе — іх выпусцяць да стагадовага юбілею надання амерыканкам выбарчых правоў.

Цяжка сказаць, якую рэакцыю чакаў кіраўнік Мінфіна ЗША. У любым выпадку, намер выявіць на 20 доларах жанчыну быў агучаны ў час выбараў, калі грамадства вельмі палітызаванае. І не дзіўна, што навіна адразу атрымала палітычную афарбоўку. Кансерватары пабачылі ў новых банкнотах праяў культурнай вайны супраць ідэнтычнасці амерыканскага Поўдня, дзе дасюль паважаюць традыцыі рабаўладальніцкіх часоў. На іх думку, новая купюра расава падзяляе краіну. Кансерватыўны канал «Fox» назваў рашэнне Мінфіну «дурным» і прапанаваў, калі ўжо камусьці закарцела друкаваць новыя грошы, выдаць купюру ў 25 долараў, дзе і выявіць Табмен.

**Спрэчка вакол дызайну долараў не мае сэнсу, паколькі папяровым грошам прыходзіць канец. Усе грошы будуць выключна электронныя. А на электронных «баксах» нельга будзе намаляваць ані Джэксана, ані Табмен**

Адразу ж прайшліся па ініцыятыве Мінфіна і кансерватыўныя кандыдаты ў прэзідэнты. Для Трампа і іншых рэспубліканцаў відавочна, што новая купюра — гэта сродак дэмакратаў падкупіць афраамерыканскі электарат.

Самае цікавае, што частка афраамерыканскай камуны таксама выступіла супраць з'яўлення банкнотаў з выявай Табмен. Яны (а таксама мясцовыя левыя) лічаць, што жыццё Табмен было накіравана, хутчэй, на разбурэнне або падрыў амерыканскіх фінансаў. Таму што яна дапамагала рабам (па тагачасных законах, рабы былі аб'ектам нерухомасці) збегчы ад сваіх гаспадароў. На думку аматараў гэтага тэзісу, новая банкнота — падступная спроба легітымацыі капіталістычнай мадэлі, давер да якой за амаль восем гадоў цяперашняга крызісу моцна знізіўся.

Хто б сумняваўся, што пачалі бурчэць і гісторыкі, якія не прымаюць чорна-белай трактоўкі асобы Джэксана. Па іх словах, да адмены рабаўладання практычна ўсе амерыканскія прэзідэнты так ці інакш падтрымлівалі старую сістэму, і часам дазвалялі сабе расісцкую рыторыку. Нават Лінкальн публічна казаў пра фізічнае непадабенства белых і чорных, што абумоўлівае іх розныя пазіцыі на сацыяльнай лесвіцы. Акрамя таго, Джэксан усё ж быў героем, якому Амерыка абавязаная годным для сябе фіналам вайны з Брытаніяй у пачатку XIX стагоддзя. Гісторыкі нават абвінавачваюць Белы дом у здрадзе сваім ідэйным бацькам — Джэксан вельмі шмат зрабіў для стварэння грамадскага руху, на базе якога пазней паўстала Дэмакратычная партыя.

Натуральна, існуюць і палярныя ацэнкі. Аматары зменаў кажуць, што яны непазбежныя — з улікам неабходнасці будаваць у ЗША новую міжрасавую дыскусію. Беласкурых амерыканцаў ужо не абсалютная большасць у ЗША, і, каб заўтра жыць у гармоніі з суседзямі-афраамерыканцамі або лацінаамерыканцамі, давядзецца дапусціць новыя фігуры ў амерыканскі пантэон. Такіх каментатараў большасць.

Напрыканцы нельга не адзначыць адну экстравагантную пазіцыю. Некаторыя кажуць, што спрэчка вакол дызайну долараў не мае сэнсу, паколькі папяровым грошам усё роўна прыходзіць канец. У хуткім часе ўсе грошы будуць выключна электронныя. А на электронных «баксах», відавочна, нельга будзе намаляваць ані Джэксана, ані Табмен.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Тэд Круз



Амерыканскі сенатар 4 мая адмовіўся ад удзелу ў прэзідэнцкай гонцы пасля паразы на праймерыз у Індыяне. Адным з фактараў правалу называецца загадкавая гісторыя яго бацькі, якая напярэдадні ўсплыла ў прэсе.

Бацька экс-кандыдата Рафаэль Круз асабіста ведаў Лі Харві Освальда, забойцу прэзідэнта Джона Кенэдзі. Прынамсі, Рафаэль і Лі Харві за тры месяцы да замаху на прэзідэнта разам раздавалі ўлёткі ў Новым Арлеане, пра што сведчаць адпаведныя фота- і кіназдымкі. Здымак Круза-старэйшага і Освальда, які ўпершыню апублікаваў часопіс National Enquirer, выклікаў сапраўдную сенсацыю, паколькі ўсплыў невядомы эпізод. Увесь час лічылася, што Освальда маглі падштурхнуць на забойства нейкія колы кубінскай апазіцыі, з якой ён кантактаваў. Аднак на здымку Освальд распаўсюджвае пракламацыі грамадзянскай арганізацыі «Fair Play for Cuba Committee», якая, наадварот, падтрымлівала Фідэля Кастра. Вядома, што бацька Круза сапраўды нейкі час абараняў кубінскую рэвалюцыю, а вось якое дачыненне да Гаваны мае забойца Кенэдзі, застаецца сакрэтам.

Так ці інакш, тая гісторыя пагоршыла імідж Круза ў вачах кансерватараў, што адбілася на выніках праймерыз.

### Віктар Орбан



Венгерскі прэм'ер працягвае пахаванне еўрапейскай інтэграцыі. 2 мая Вярхоўны суд краіны даў згоду на правядзенне рэферэндуму, які раней прапанаваў Орбан, і які праз суд аспрэчыла апазіцыя.

Прэм'ер хоча, каб на плебісцыт вынеслі пытанне пра права венгерскага парламента накладаць вета на рашэнні Брусэля, якія тычацца праблемы мігрантаў. Перш за ўсё гэта адносіцца да плану ЕС размясціць у Венгрыі 120 тысяч уцекачоў. План быў агучаны яшчэ ў верасні, і адразу выклікаў рашучы пратэст у Будапешце ў выглядзе ідэі плебісцыту. Дастаткова спекулятыўная тэма і фармулёўка пытання дазваляе казаць, што венгры, хутчэй за ўсё, падтрымаюць Орбана. Еўрапейскія СМІ пішуць, што пасля Венгрыі хваля падобных рэферэндумаў можа пракаціцца па іншых краінах рэгіёну.

Венгерская апазіцыя лічыць, што гэта толькі першая праява заканадаўчай маніі кіраўніка ўраду. Раней, выступаючы ў парламенце з нагоды гадавіны дзеючай Канстытуцыі, Орбан дапусціў уключэнне ў яе тэкст параграфа пра забарону ў краіне «ісламізацыі». Каб неяк адтэрмінаваць рэферэндум, які плануецца на восень, апазіцыя напісала скаргу ў Канстытуцыйны суд.

### Міхаіл Касьянаў

Усвой час прыход былога прэм'ера Расіі ў вядучую расійскую апазіцыйную «Партыю народнай свабоды» (ПАРНАС) выклікаў шмат надзеяў на тое, што антыпуцінская сілы змогуць выйсці з маргінальнай дрыгвы. Асноўныя надзеі былі звязаныя з восеньскімі парламенцкімі выбарамі, па выніках якіх апазіцыя разлічвала прайсці ў Дзярждуму. Цяпер відавочна, што Касьянаў не здольны аб'яднаць апазіцыйны лагер, а яго палітычная будучыня вельмі сумнеўная.

Група апазіцыянераў, сярод якіх Аляксей Навальны, Ілля Яшын, Уладзімір Мілаў і іншыя вядомыя палітыкі, пакінула кааліцыю. Цяпер ужо экс-партнёры Касьянава па перадвыбарнай кааліцыі абвінавачваюць яго ў зрыве арганізацыі і фінансавання праймерыз, няздольнасці несці функцыі лідара, кампраметацыі дэмакратаў (месяц таму тэлеканал НТВ паказаў рэпартаж «Касьянаў дзень», які дэманструе інтымнае жыццё былога прэм'ер-міністра Расіі). Цяпер лагер расійскіх дэмакратаў знаходзіцца ў стане імклівага перафарматавання. 3 мая стала вядома, што Навальны вядзе перамовы з партыяй «Яблоко» наконт фармавання новага апазіцыйнага выбарчага блоку.




1943 год


Аляксандр Краўцоў, крайні злева, 1942 год


Будаўніцтва аэрадрому пад Мінскам, вясна 1941 года

# Вайна інжынера Краўцова


Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Ён нарадзіўся ў Расіі, аднак вайсковая служба і падзеі Другой сусветнай назаўсёды звязалі жыццё Аляксандра Краўцова з Беларуссю.**

## Станічнік-чырвонаармеец

Нарадзіўся Аляксандр Глебавіч Краўцоў у жніўні 1909 года ў станіцы Ермакоўскай на Стаўрапольшчыне. У 1915 годзе станічны атаман выдаў хлопцу пасведчанне з гербам Расійскай імперыі для прадстаўлення ў навучальную ўстанову. Аднак імперыя Раманавых дажывала апошнія гады. У 1923 годзе станічнік паступіў на вучобу ў 1-ю Савецкую працоўную школу ў Стаўрапалі. Падчас вучобы Аляксандр удзельнічаў у розных спартовых спаборніцтвах, і нават вучыў французскую мову. У 1930 годзе ён паступіў на службу ў Краявы дарогабудаўнічы трэст, дзе выконваў абавязкі малодшага тэхніка-будаўніка.

Праца будучага вайсковага інжынера заключалася ў распрацоўцы мясцовасці для будаўніцтва дарог. У верасні 1931 года Краўцова прызываюць у Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію (РСЧА). Служыць давялося ў вучэбнай роце 82-га стралковага палка 28-й горна-стралковай дывізіі ў Грозным. У гэты час на Каўказе было неспакойна: чачэнцы і дагестанцы імкнуліся вызваліцца з-пад расійска-бальшавіцкай улады. У сакавіку 1932 года пачалося чарговае антысавецкае выступленне. Антыбальшавіцкія атрады імкнуліся захапіць нафтавыя промыслы Сцерач-Кертыч.

У адказ Крэмль накіраваў у гэтыя раёны вялікія вайсковыя падраздзяленні. У іх складзе быў ужо камандзір узвода, малодшы лейтэнант Аляксандр Краўцоў. У адным з баёў яго жаўнеры аказаліся ў атачэнні і вымушаны былі прарывацца з боем. Так ці інакш, савецкім войскам удалося зламіць супраціў чачэнцаў і дагестанцаў, і хутка паўстанне было падаўлена. За «баявую кемлівасць і мужнасць» (так адзначалася ў дакументах) чырвонаармейца са Стаўрапаля ўзнагародзілі Ордэнам Чырвонага Сцяга і накіравалі на далейшую вучобу на будаўнічы факультэт толькі што створанай Вайскова-інжынернай акадэміі РСЧА імя Валяр'яна Куйбышава ў Маскве. У 1935 годзе курсант быў узнагароджаны ганаровай граматай за ўдзел у спартыўных спаборніцтвах. Пасля заканчэння акадэміі Аляксандр Глебавіч быў пераведзены на службу ў Беларускую асаблівую вайсковую акругу ў якасці інжынера 3-га рангу Вайскова-паветраных сіл РСЧА.

## Трагедыя чэрвеня 1941-га

1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветнай вайна, а праз 17 дзён Чырвоная Армія ўвайшла ў Заходнюю Беларусь. Капітан Краўцоў быў накіраваны туды для вывучэння стану і падрыхтаванасці польскіх вайсковых аэрадромаў, якія знаходзіліся на гэтых тэрыторыях. Савецкія вайскоўцы падрабязна абследавалі польскія авіябазы ў Жабчыцах, Лідзе, Вільне, Макашэвічах, Брэсце, Лунінцы. Эйфарыя ад «лёгкай перамогі над панскім войскам» хутка прайшла, і Заходняя асаблівая вайсковая акруга (ЗахАВА), у якую была перайменаваная Беларуская акруга, пачала рыхтавацца да надыходзячай вайны з Германіяй.

У гэты час вайсковы інжынер Краўцоў шмат ездзіў па Беларусі (як усходніх, так і заходніх абласцях) і праводзіў інспекцыі новых аэрадромаў ВПС РСЧА. У яго архіве (які зараз у распараджэнні аўтара) захавалася некалькі здымкаў будаўніцтва ўзлётна-пасадачных палос пад Мінскам у 1941 годзе. У выніку рэпрэсій 1937–1938 гадоў большасць таленавітых вайсковых інжынераў расстралялі. Ім на замену прыйшлі маладыя спецыялісты кшталту Краўцова, якія разумелі складаную вайсковую сітуацыю, і таму спрабавалі зрабіць усё, каб аб'екты Чырвонай Арміі былі гатовыя да баявых дзеянняў. Аляксандр Глебавіч меў кругласутачны пропуск у штаб ВПС Заходняй асаблівай акругі РСЧА за нумарам 68. Дакумент быў выданы ў студзені 1941 года і перарэгістраваны 10 чэрвеня 1941 года — за 12 дзён да германскага нападу на СССР. У гэты перыяд капітана часта выклікалі да камандуючага авіяцыяй ЗахАВА генерал-маёра Івана Капца.



Камсамольскі білет Аляксандра Краўцова, выданы ў Мінску

У 3 гадзіны раніцы 22 чэрвеня 1941 года ўсе савецкія аэрадромы ў БССР былі раптоўна атакаваныя германскай авіяцыяй. Спачатку па іх нанеслі ўдар бамбавікі He-111, а пазней справу дарабілі пікіроўшчыкі Ju-87 і Ju-88 сумесна з цяжкімі знішчальнікамі Me-110. Большасць аэрадромаў, размешчаных паблізу мяжы, да сярэдзіны дня былі захопленыя наступаючымі часткамі вермахта. У першы дзень германскага ўварвання ў СССР агульныя страты ВПС ЗахАА склалі 738 самалётаў, 528 з якіх былі захопленыя на зямлі. Гэтага не змог вытрымаць камандуючы авіяцыяй РСЧА у Беларусі, генерал-маёр Капец. Абляцеўшы разбураныя аэрадромы і даведаўшыся пра маштабы страт, ён застрэліўся ў сваім службовым кабінеце.

## Курская бітва і вызваленне Беларусі

Сітуацыя была трагічнай, але трэба было супрацьстаяць ворагу. Ужо 29 чэрвеня 1941 года Краўцоў атрымаў ад будучага маршала авіяцыі, а тады начальніка штаба ВПС Заходняга фронту палкоўніка Сяргея Худзякова дакумент з рэвалюцыйнай назвай «мандат», у якім вайсковаму інжынеру даваліся паўнамоцтвы выкарыстоўваць грамадзянскае насельніцтва і транспартныя сродкі для рамонту знішчаных ворагам аэрадромаў. У ліпені 1941 года Краўцову было нададзена званне вайсковага інжынера 2-га рангу. За ўдзел у абарончых баях у Беларусі летам 1941 года Краўцоў быў узнагароджаны Ордэнам Чырвонай Зоркі.

Пазней была служба ў якасці галоўнага інжынера аэрадромнага будаўніцтва 1-й паветранай арміі, якая была сфарміравана ў маі 1942 года. Адзін з першых яе камандуючых быў усё той жа Сяргей Худзякоў. У прадстаўленні да ўзнагароды Ордэнам Айчыннай вайны II ступені інжынер-маёра Аляксандра Краўцова чытаем: «Кіраваў падрыхтоўкай аэрадромаў на поўначы ад горада Арол. Асабіста арганізаваў падрыхтоўку 9 аэрадромаў ля лініі фронту ў тэрмін ад 2 да 5 дзён. Арганізаваў рэкагнасцыроўку аэрадромаў».


Аляксандр Краўцоў, 1932 год


Аляксандр Краўцоў, 1960-я гады

Бітва пад Курскам, якая адбывалася летам 1943 года, мела вялікае стратэгічнае значэнне і дазволіла вызваліць значную частку савецкай тэрыторыі. Свой унёсак у гэтую перамогу зрабіла і 1-я паветраная армія. Падчас тых баёў маёр Краўцоў быў цяжка паранены і цудам выжыў. У шпіталі афіцэр атрымаў ліст ад саслужыўцаў, у якім адзначалася, што загадам № 01255 яму было прысвоена званне падпалкоўніка. Дарэчы, тэкст быў напісаны на кавалку трафейнай нямецкай мапы.

Наступную ўзнагароду — Ордэн Айчыннай вайны I ступені — Аляксандр Глебавіч атрымаў за ўдзел у вызваленні Беларусі ў складзе 3-га Беларускага фронту. Вось што падкрэслівалася ва ўзнагародным лісце: «Таварыш Краўцоў арганізаваў будаўніцтва аэрадромаў на паўночны захад і захад ад Віцебска, Сянно, Лепеля, Бягомля і інш. Пад яго кіраўніцтвам былі арганізаваныя працы на аэрадроме Бешанковічы. Пазней, падчас аперацыі па захопу Вільні і Коўна, Краўцоў кіраваў будаўніцтвам аэрадромаў на гэтых накірунках». Тады ж інжынер атрымаў і медаль «За баявыя заслугі». Апошняй аперацыяй Другой сусветнай вайны, у якой ён удзельнічаў, былі баявыя дзеянні ва Усходняй Прусіі. Падчас тых баёў зімой 1945 года пад кіраўніцтвам падпалкоўніка было пабудавана 20 аэрадромаў і адрамантавана 7 старых. За гэта яго ўзнагародзілі другім Ордэнам Чырвонага сцяга.

Да канца 1950-х гадоў Аляксандр Краўцоў служыў у войску ў Кіеве. У яго архіве захаваліся лісты, дзе франтавік прасіў перавесці яго ў Беларусь, якая стала для яго роднай.

Нарэшце, вайсковага інжынера накіравалі ў Мінск, аднак хутка ён быў звольнены ў запас. Нагадала пра сябе цяжкае раненне, атрыманае Аляксандрам Глебавічам падчас Курскай бітвы.

Свае прафесійныя веды франтавік выкарыстаў у сферы мірнага будаўніцтва. З лістапада 1961 года ён працаваў намеснікам начальніка вытворчага адзела Дзяржбуда БССР і займаўся інспекцыяй будаўнічых пляцовак па ўсёй Беларусі. У 1962 годзе ён скончыў факультэт павышэння кваліфікацыі інжынерна-тэхнічных працоўных Беларускага політэхнічнага інстытута. Таленавітага спецыяліста і ветэрана запрашалі ў якасці эксперта на ўсе пасяджэнні Вярхоўнага савета БССР. Быў ён частым госцем і на парадах у гонар Дня Перамогі. На адным са здымкаў, які захаваўся ў архіве вайсковага інжынера, можна было ўбачыць маршалаў Перамогі К. Ракасоўскага і І. Баграмяна, якія прыбылі ў Мінск з нагоды святкавання 20-гадовых угодкаў вызвалення Беларусі ад нацыстаў.

Памёр удзельнік Другой сусветнай вайны, палкоўнік Краўцоў у пачатку 1990-х гадоў.

**Фота з уласнага архіву Ігара Мельнікава**

# Дыягназ — здраднік. Гіль-Радыёнаў і яго брыгада

Зміцер ЗАХАРЭВІЧ

**У Беларусі гераізуецца постаць Гіля-Радыёнава. На АНТ нават знялі двухсерыйны дакументальны фільм пра «Дружыну», дзе з Гіля стварылі вобраз не толькі партызанскага камандзіра, але і (што зусім дзіўна) бясстрашнага савецкага выведніка (!), які, рызыкуючы жыццём, нібыта спецыяльна ўкараніўся ў СС і змагаўся з ворагамі.**



Маёр РККА Уладзімір Гіль, даваеннае фота

Але вось як характарызаваў яго былы начальнік Беларускага штабу партызанскага руху Павел Калінін: «Гіль-Радыёнаў загінуў у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі. Але я не магу назваць яго патрыётам. Хіба можна змаўчаць аб карных экспедыцыях супраць партызан, якімі ён кіраваў? Хіба можна забыць пра зверствы, якія чынілі яны над мірным насельніцтвам? Можна даравацць многае. Але нельга, немагчыма даравацць свядомую здраду роднай краіне, свайму народу, масавыя расстрэлы сваіх братоў па крыві. Вось чаму я і дагэтуль не лічу магчымым сказаць добрае слова пра Гіля-Радыёнава».

## Здрада. Пачатак

20 красавіка 1942 года ў лагеры «Офлаг-68» у Сувалках падчас сходу савецкіх ваеннапалонных, прымеркаванага да дня нараджэння Адольфа Гітлера былы начальнік штабу 229-й стралковай дывізіі падпалкоўнік Уладзімір Гіль абвясціў пра стварэнне Баявога саюзу рускіх нацыяналістаў (БСРН) і прапанаваў усім ахвотным далучыцца да арганізацыі і да яе баявых аддзелаў. Ініцыятарамі гэтых заяў з'яўляліся немцы, і прагучалі яны пасля папярэдняга ўзгаднення з начальнікам сувалкаўскага аддзелу СД для ваеннапалонных штурмбанфюрэрам Гансам Шындоўскі. Праз тры тыдні ўзмоцненай выведна-дыверсійнай падрыхтоўкі з добраахвотнікаў, сяброў БСРН, быў сфармаваны 1-ы Рускі нацыянальны аддзел СС «Дружына» пад камандаваннем Гіля.

Увосень 1942-га падраздзяленне, якое той час налічвала ад 600 да 700 чалавек, было перакінута ў Беларусь, дзе хутка прыняло ўдзел у антыпартызанскай акцыі ў Бялыніцкім, Бярэзінскім і Клічаўскім раёнах. З другой паловы студзеня 1943 года «Дружына» стала ўдзельнічае ў падобных акцыях, у асноўным займаецца спаленнем вёсак, знішчэннем цывільнага насельніцтва, захопам працоўнай сілы для адпраўкі на прымусовую працу і рэквізіцыямі сельгаспрадуктаў.

У сакавіку 1943 года ў беларускім мястэчку Лужкі Шаркаўшчынскага раёна гіляўская «Дружына» і яшчэ колькі падобных фармаванняў былі аб'яднаныя ў 1-ы рускі нацыянальны полк СС. Камандзірам яго стаў Гіль (менавіта тады ён пачаў карыстацца псеўданімам «Радыёнаў»), якому было нададзена званне штандартэнфюрэра СС. Лужкі зрабіліся цэнтрам раёну, перададзенага Гілю-Радыёнаву для фактычнага самакіравання. У гэты ж час да Гіля-Радыёнава прыбылі прадстаўнікі Рускай вызвольнай арміі (РОА) генерала Уласава — генерал Жылянкоў і генерал Іваноў, — з мэтаю схіліць камандзіра да ўваходжання ў склад РОА. Але апошні не захацеў губляць свайго незалежнага становішча «бацькі-атамана», і перамовы скончыліся безвынікова.

## Карнікі

Пра дзеянні «радыёнаўцаў» сведчыць мясцовы жыхар А. Галубіцкі:

«...Дзесьці вясной 1943 года пашырыліся ў нас чуткі, што ў недалёкіх ад нас Лужках знаходзіцца нейкая расійская фармацыя на чале з Радыёнавым, якая мае змагацца з партызанамі. Хоць у нас час ад часу з'яўляліся партызаны, але ніхто не звярнуў асаблівай увагі на гэтых новых «абаронцаў».

Пасля нейкага часу праз нашу вёску прасунуліся збройныя калоны Радыёнава, накіроўваючыся на ўсход. Праз некалькі дзён кожны звяртаў свае позіркі ў той кірунак: там неба днямі чарнела густымі дымамі, а начамі палала зарывам пажараў.

Назад калоны вярталіся абладаваныя сялянскім дабром, з цэлымі статкамі кароў і іншай дамавой жывёлы. П'яныя жаўнеры нярэдка везлі на вазах сваю «ваенную здабычу» — маладых дзяўчат. Адкрыліся вочы сялянам — пабачылі, што за «абаронцаў» нажылі ў суседстве.

Пасля гэтай «генеральнай акцыі» пачаліся дробныя налёты «радыёнаўцаў» на бліжэйшыя вёскі, быццам у пошуках партызанаў. П'яная арда звальвалася на вёску як саранча, рабавала, гвалціла, а пры найменшым супраціве — збівала і расстрэльвала. Дайшло да таго, што часам жыхары, заўважыўшы загадзя набліжэнне расійскіх аддзелаў (пазнаць іх было лёгка па вялікай колькасці абозу), шукалі аховы пры нямецкіх «штыцпунктах» ці мясцовых гарнізонах, калі такія былі ў ваколіцы. Бывалі выпадкі і сутычак між мясцовай беларускай паліцыяй і радыёнаўцамі.



Радыёнаўцы адпачываюць



Байцы брыгады СС «Дружына»

Пасля сваёй першай крывавай акцыі на ўсход ад Глыбоччыны ды некалькіх не менш крывавых рэйдаў у бліжэйшых да сваёй «стаўкі» раёнах, Радыёнаў пачаў «мабілізацыю» мясцовага жыхарства ў свае шэрагі. Моцны аддзел радыёнаўскіх карнікаў прыбываў у валасны цэнтр і загадваў старастам склікаць усіх маладых людзей на антыкамуністычны мітынг. За нез'яўленне — расстрэл. На мітынгу выступаюць афіцэры-агітатары, якіх ні мова, ні спосаб гаварэння не розніцца ад тых, якімі карыстаюцца савецкія палітрукі. Толькі замест «савецкая радзіма», «камунізм», «правадыр Сталін», чуецца «Расія», «новая Еўропа», «фюрэр Гітлер». На заканчэнне «палітрук» абвяшчае, што ўсе прысутныя з'яўляюцца «добраахвотнікамі рускага войска». Натоўп абкружаны ўзброенымі «радыёнаўцамі», і пад акампанемент дзікага мата пачынаецца фармаванне яго ў калоны ды адбіранне дакументаў, без якіх нідзе нельга паказацца, каб не быць палічаным за партызана. Праўда, шматлікія «добраахвотнікі» пры дапамозе самагону пазбываліся гонару быць «рускімі ваярамі» — выкупляліся».

У маі 1943 года на грунце палка Гіля-Радыёнава пачалося фармаванне 1-й рускай нацыянальнай брыгады СС. Калі напрыканцы чэрвеня разгортванне ў брыгаду скончылася, нацыянальны склад яе быў наступны: рускія — 80 працэнтаў, прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў — 20 працэнтаў.

## Вайна з людзьмі

Адначасна «радыёнаўцы» на тэрыторыі Бягомльскага, Лепельскага, Плешчаніцкага і Халопеніцкага раёнаў удзельнічалі ў антыпартызанскай аперацыі «Котбус», падчас якой вызначыліся новымі «подзвігамі».

Так, байцы брыгады на Лепельшчыне, сабраўшы са спаленых імі вёсак тры тысячы беларусаў — амаль выключна старых, калекаў і кабетаў з дзецьмі, — прагналі іх праз спёку і пыл 30 кіламетраў і спынілі калону каля вёскі Іканікі. Штандартэнфюрэр Гіль-Радыёнаў звярнуўся да «пагамаатых партызанаў» і паабяцаў жыццё кожнаму, хто папросіць яго аб літасці на «русском литературном языке». Але ніхто гэтай чужой мовы не ведаў, таму ўсе былі расстраляныя з кулямётаў. А ў мястэчку Зэмбін «радыёнаўцы» забілі трох юнакоў і дзвюх дзяўчат за значкі ў выглядзе беларускага нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга.

У выніку дзейнасці брыгады Гіля-Радыёнава са 147 вёсак Бягомльскага раёна засталося толькі 9. Пра маштабы дзеянняў брыгады яскрава сведчыць адзін факт. Падчас антыпартызанскай аперацыі «Люты» ўзімку 1943-га Гіль-Радыёнаў звяртаецца аж да кіраўніка СС усёй Беларусі фон Готберга, каб той паказаў яму вёску, дзе байцы Гіля маглі б схавацца ад сцюжы. Бо пасля аперацыі на той тэрыторыі не засталося ніводнага жылога дома!

## І зноў здрада

З часам маральны стан у брыгадзе пагаршаўся, расла колькасць дэзерціраў. Гэтаму спрыялі перамога пад Сталінградам і контрнаступ Чырвонай Арміі на поўдні, а таксама абяцанне Сталіна амніставаць тых, хто супрацоўнічаў з немцамі, але перайшоў на бок Саветаў са зброяй у руках.

Паразы вермахта пераканалі Гіля-Радыёнава, што запахла «паленым». Таму, ратуючы сваю скуру, 16 жніўня 1943 года, згодна з папярэдняй дамоўленасцю з камандаваннем партызанскай брыгады «Жалязняк» і непасрэдна з кіраўніком цэнтральнага штабу партызанскага руху Панцеляймонам Панамарэнкам, ён са сваёй брыгадай пераходзіць на савецкі бок. 1-я руская нацыянальная брыгада СС была перайменаваная ў 1-ю антыфашысцкую партызанскую брыгаду.

І ўжо 17 жніўня, каб давесці адданасць свайму «новаму-старому» гаспадару Сталіну «радыёнаўцы» знішчаюць станцыю Каралеўшчына (цяпер Круляўшчызна), якую абаранялі чыгуначныя працаўнікі арганізацыі Тодта, людзі ў сваёй большасці старыя і небаяздольныя. На зваротным шляху Гіля-Радыёнава ягоныя байцы разбіваюць невялікі нямецкі гарнізон у Докшыцах, «па інерцыі» абрабаваўшы цывільнае насельніцтва.

Даволі хутка, 6 верасня 1943 года, за пераход на бок савецкіх партызанаў і ўдалыя дзеянні супраць немцаў Уладзіміра Гіль-Радыёнава ўзнагародзілі ордэнам Чырвонай Зоркі, а таксама яму было нададзена званне палкоўніка Чырвонай Арміі.

## Канец эпапеі

Ад трагічнага да смешнага ў гісторыі адзін крок... Падчас антыпартызанскай аперацыі «Фрулінгсфэст» 1-я антыфашысцкая партызанская брыгада была блакавана ў раёне Ушачаў падраздзяленнямі Рускай вызвольнай народнай арміі (РОНА Браніслава Камінскага, будучая 29-я грэнадзёрская дывізія СС «РОНА»), у баях з якімі брыгада страціла больш за дзве трэціны асабовага складу і ўрэшце была расфармавана. 4 мая 1944 года падчас прарыву блакады Гіль-Радыёнаў быў паранены ў грудзі і праз дзесяць дзён, 14 мая, памёр.

У нашы дні знайшлі парэшткі Гіля-Радыёнава і перазахавалі іх з гонарам у брацкай партызанскай магіле ва Ушачах. Зараз каля гэтых магілак «ганарова» прымаюць малагадовых ушачанаў у піянеры ды БСРМ.

# Рэканкіста Эдуарда Акуліна

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**У Доме літаратара прайшла прэзентацыя кнігі Алеся Бяляцкага «Бой з сабой», якую можна аднесці да жанру творчага партрэта. Героем кнігі стаў знакаміты беларускі паэт, бард, рэдактар літаратурна-мастацкага часопіса «Верасень» Эдуард Акулін.**






Усе без выключэння госці і выступоўцы адзначалі, што прэзентацыя кнігі адбываецца ў сімвалічным месцы, якое апошнім часам мала радавала прыхільнікаў беларускага прыгожага пісьменства сустрэчамі з родным словам, з любімымі аўтарамі і выканаўцамі. І вось з гэтай прэзентацыяй і пачалося «адваёўванне» (ісп. Reconquista) унікальнай інтэлектуальнай прасторы, якая яшчэ захавала рэха паэтычных і празаічных твораў, мовы Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Анатоля Сыса і іншых беларускіх геніяльных творцаў.

Першым з вітальным словам да аўтара кнігі і яго галоўнага героя, да будучых чытачоў звярнуўся акадэмік Радзім Гарэцкі. Ён заўважыў, што герой кнігі Алеся Бяляцкага насычаны беларушчынай настолькі моцна, што без яе не ўяўляе свайго жыцця. Але гэта не робіць творчасць Эдуарда Акуліна аднабокай, а, наадварот, здзіўляе разнастайнасцю. Акулін — лірык, які тонка адчувае не толькі прыгажосць пачуцця кахання, але і чароўнасць роднай прыроды, распавядае пра прыналежнасць да яе. У той жа час яго лірыка нясе адбітак філасафічнасці і роздуму над самымі разнастайнымі праявамі беларускага жыцця.



Аўтар кнігі Алесь Бяляцкі адзначыў, што стварацць нарыс пра творчасці Акуліна было лёгка, бо з 17-ці гадоў яны разам ішлі па адных жыццёвых сцежках: разам паступілі ў Гомельскі ўніверсітэт, жылі ў адным інтэрнаце, ездзілі на раскопкі ў Мір, Ішкалдзь, Навагрудак, стварылі беларускамоўны рок-гурт «Баскі»... Потым Эдуард па размеркаванні паехаў у правінцыю, а Алесь паступіў у аспірантуру. Калі ў сталіцы было створана таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», то Эдуард стаў яго сябрам, і землякі зноў былі разам — падсумаваў успаміны Алесь Бяляцкі.

**Алесь Бяляцкі адзначыў, што стварацць нарыс пра Акуліна было лёгка, бо з 17-ці гадоў яны разам ішлі па адных жыццёвых сцежках**

У 2011 годзе менавіта за кратамі ў Бяляцкага канчаткова выкрышталізавалася ідэя напісаць творчы партрэт сябра.

Пісалася кніга «Бой з сабой», як ні парадаксальна, даволі лёгка, з той прычыны, што Эдуард сапраўды добры паэт, які тонка адчувае патэнцыял беларускага слова. «Пішучы пра творчасць Эдуарда, я меў на ўвазе не толькі майго сябра, але і ўсё пакаленне «Тутэйшых», якое выдатна стартавала ў пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя і ўжо ў канцы 80-х зрабіла мастацкі рывок маладой айчыннай паэзіі, прозы і драматургіі ў новае стагоддзе», — заўважыў Алесь Бяляцкі.

Для паўнаты карціны стварэння гэтай кнігі Бяляцкі распавёў пра асаблівасці ў напісанні такіх твораў у турэмных умовах. Прыходзілася пастаянна ахвяраваць асабістым часам, каб кожны дзень выконваць запланаванае — пісаць адну старонку нарыса. Але менавіта так можна было ажыццявіць даўно задуманае. Цікава, што турэмная начальства, бывала, прыхільна ставілася да літаратурнай творчасці «зэка» Бяляцкага. Напрыклад, вершы Акуліна пакідалі для прачытання і абдумвання яго зместу і асаблівасцяў. Хоць да іншай літаратуры «з волі» ставіліся больш строга — адсылалі дамоў сям'і вязня.

Запрошаны на вечарыну Алесь Сёмін з фолк-гурта «Пліса» выканаў песню «Камяні» на верш Леаніда Дайнекі. А вось кіраўнік названага гурта Кастусь Герашчанка прадставіў прэм'еру песню на верш Акуліна «Максім, не вяртайся». Музычную праграму вечарыны працягнула паэтка і кампазітар Кацярына Ваданосава, якая распачынала свой шлях у літаратуру на старонак часопіса «Верасень». Кацярына са сваім калектывам выканала некалькі аўтарскіх твораў.

Аляксей Галіч уразіў прысутных прэм'ерай песні на верш Акуліна «Крылакрыж». А ўдзельнікі гурта «NAVI» Ксенія Жук і Арцём Лук'яненка прапанавалі слухачам песні са свайго рэпертуару. Дарэчы, гурт мэтанакіравана рухаецца да сваёй мэты, да ўдзелу ў «Еўрабачанні» менавіта з беларускамоўнай кампазіцыяй. Пажадаем жа маладым выканаўцам поспехаў на гэтым шляху.

P.S. На жаль, як распавёў Эдуард Акулін, «мяккая рэканкіста» ў Доме літаратара атрымалася не да канца, бо адміністрацыя ўстановы забараніла продаж прэзентаванай тут кнігі. Хоць гэта і абгаворвалася падчас падпісання дамовы і аплаты арэнды Дома літаратара. Як кажа сам «віноўнік» урачыстасці, «калі цябе запрашаюць вярнуцца ў храм, адкуль выгналі, то трэба вяртацца». Але калі падманваюць, варта шукаць альтэрнатыву.




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 429

Падпісана да друку 06.05.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.